# Веcткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamlenni**

Сусьветнае сеціва: ***www.baza-belarus.org, e-krama.com***
Электронны адрас: ***viestki@mail.com***
✉ *P. O. Box 572, New York, NY 10313*

№ 2 (552)
Люты 2012 г.

## Аніякі час ад натхненьня ня вольны...

Нягледзячы на тое, што мінулы год быў ня лепшым для беларускай кнігі, зьявілася ці мала прыкметных выданьняў, і ня толькі ў Беларусі. У ЗША пабачыла сьвет кніга Вальжыны Морт “Collected Body”. Гэта ўжо трэці зборнік: першы – “Я тоненькая як твае вейкі” – быў выдадзены ў Менску ў 2005 г. Тады ж Вальжына пераехала ў ЗША на сталае жыцьцё. У 2008 г. у выдавецтве “Copper Canyon Press” выйшаў зборнік беларускамоўных вершаў зь іх перакладамі на ангельскую мову “Factory of Tears” (“Фабрыка сьлёз”), названы амэрыканскім друкам “першым у гісторыі беларуска-ангельскім паэтычным зборнікам, выдадзеным на тэрыторыі Злучаных Штатаў”. Кніга таксама выйшла ў перакладах у Швэцыі і Нямеччыне. Па зьяўленьні кнігі ў часапісе “Poets & Writers” было зьмешчана вялікае інтэрвію з аўтаркаю. Вальжына – ляўрэат міжнароднай літаратурнай ўзнагароды “Крышталь Віленіцы” Міжнароднага літаратурнага фэстывалю “Віленіца-2004” (Славенія, 2005), прэміі Губэрта Бурды (Нямеччына, 2008), стыпэндыяльнай праграмы Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы “Gaude Polonia”, літаратурнай прэміі Фундацыі Лэннэна (2010).

З нагоды выхаду новай кнігі Вальжына Морт адказала на нашыя пытаньні.

**бачына 12**

## Чытайце ў гэтым нумары:



## “Я жыву ў Беларусі”

*“Мужны ўцякач”, “свабодны радыкал”, “эпічны герой-пераможца” ... Якімі толькі эпітэтамі не ўзнагароджвалі Зянона Пазьняка з тых часоў, як ён іміграваў у ЗША. Як толькі не дэманізавалі ягоны вобраз! Можна па-рознаму ставіцца да Зянона Пазьняка, але з тым, што гэтая фігура ўпісаная ў беларускую гісторыю, цяжка паспрачацца.*

*Наўрад ці хто-небудзь з прысутных на лістападаўскім сходзе Нью-Ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, што прайшоў у залі Міжнароднага Дому Маракоў на Мангэтане, чакаў там зьяўлення жывой легенды беларускай палітыкі. Людзі, якія сабраліся (у асноўным, моладзь ва ўзросьце 20-30 гадоў) дружна шапталіся, гледзячы ў бок другога шэрагу, дзе сядзеў Пазьняк, і разам прыціхлі, калі лідэру КХП-БНФ далі слова.*

***Артыкул Алісы КСЯНЕВІЧ чытайце на***

**бачыне 15**

# Студзеньскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”

У Доме Маракоў на Мангэтане 14-га студзеня адбыўся першы ў гэтым годзе сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”, арганізацыі, што была створаная ці, дакладней, трансфармаваная на аснове грамады, што складала былы Нью-Ёрскі аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Арганізацыя стала дзеіць пад новаю назваю ад сьнежня мiналага году, і пасьпела ў тым жа месяцы правесьці мітынг салідарнасьці з дэмакратычнымі апазыцыйнымі сіламі ў Беларусі. Грунтуючыся на падвалінах Акту 25 Сакавіка 1918 году, арганізацыя прытрымліваецца тых жа мэтаў і прынцыпаў, што і да трансфармацыі, а менавіта, прынцыпаў узаемадапамогі і спрыяньня выхадцам зь Беларусі, падтрымкі дэмакратыі на Бацькаўшчыне, падтрымкі нацыянальнай беларускай культуры і мовы, прызнаньня гербу Пагоня і бел-чырвона-белага сьцягу нацыянальнымі сымболямі Беларусі.

Акурат пра ўсё гэта распавёў напачатку сходу старшыня арганізацыі Віталь Зайка. Ён таксама заклікаў усіх прысутных далучацца да арганізацыі і запрашаць на яе сходы й імпрэзы сяброў і знаёмых. Прамоўца адзначыў важнасьць падтрымкі ў Амэрыцы сувязаў паміж землякамі і падкрэсьліў, што кожная, нават найменьшая, этнічная група ў ЗША імкнецца да еднасьці, прыцягненьня ў свае шэрагі суайчыньнікаў для ўзаемнай падтрымкі, культурнага разьвіцьця сваёй нацыі на чужыне і ў пэрспэктыве – дасягненьня палітычнага ўплыву ў ЗША. Сп. В. Зайка нагадаў такія этнічныя грамады, як гэбраі, італьянцы, ірлянцы, грэкі, армяне, палякі і, апошнім часам, арабы й, наагул, мусульмане, што актыўна разьвівалі свае арганізацыі, дапамагалі сваім суайчыньнікам, а таксама сваім маткам-краінам, адкуль паходзяць.

Прамоўца прывёў прыклад невялічкай паўднёваамэрыканскай краіны Гаяны, колькасьць насельніцтва якой не перавышае паўмільёна. Нягледзячы на мультырасавасьць і шматкультуральнасьць насельніцтва, гаянцы здолелі трымацца разам, ствараць досыць трывалыя арганізацыі, мацаваць узаемадапамогу. У выніку гаянская прысутнасьць, прысутнасьць выхадцаў з народу колькасна меншага за беларускі Гомель, адчуваецца ў Нью-Ёрку непараўнальна мацней, чым прысутнасьць беларусаў – народу амаль 10-мільённага. Гаянцы маюць сваю дзялянку геаграфічна, Рычманд-Гіл у Нью-Ёрку, бяруць удзел у этнічных парадах, друкуюць свае газэты, маюць пляны высоўваць сваіх людзей на консылмэнаў у Кўіньсе і Брукліне, дапамагаюць розным гуманітарным праектам на сваёй бацькаўшчыне. Тым больш неспрыяльнае параўнаньне беларускай прысутнасьці з іншымі, больш лічэбнымі, этнічнымі групамі.

Сп. В. Зайка падкрэсьліў, што праз пашырэньне інфармацыі пра беларускія арганізацыі, а галоўнае, праз імкненьне да салідарнасьці й узаемнай падтрымкі землякоў беларусы маюць усе падставы адрадзіць былы ўплыў, які мела беларуская грамада ў 1950–70-я гады, і ўзмоцніць яго. Для гэтага ў нас ёсьць усё неабходнае – арганізацыі, месцы для сустрэчаў і, галоўнае, самыя выхадцы зь Беларусі. Цяпер задачай ёсьць зацікавіць людзей, уцягнуць у грамадзкую працу, даказаць, што арганізацыі, як “ПАГОНЯ”, маюць значна мацнэйшы патэнцыял і большую карысьць для людзей зь Беларусі, чым простае спрыяньне ў дасягненьні бліжэйшых мэтаў, зьвязаных са зьменаю статусу.

Затым перад прысутнымі зь цікавым паведамленьнем аб выданай ня так даўно ў ЗША кнізе, што закранае гісторыю Беларусі, выступіў сябар управы Згуртаваньня Зьміцер Левіт. Ён прадставіў кнігу А. Сулімы-Камінскага “Рэч Паспалітая супраць аўтакратыі” (Гарвард, 1993), пра нялёгкія часы расейскага нашэсьця ў канцы 17-га стагодзьдзя, уплыў якога адчуваецца ў пэўным сэньсе і да цяперашняга часу. Поруч з вынішчэньнем амаль паловы тагачаснага беларускага насельніцтва Маскоўская дзяржава вынішчыла найбольш актыўныя, жывыя элемэнт і падрыхтавала праз этнічна-канфэсійныя маніпуляцыі, а таксама субвэрсійную антыдзяржаўную дзейнасьць супраць старабеларускай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага, далучэньне беларускіх земляў і асіміляцыю беларускага насельніцтва.

Сп. З. Левіт напачатку даў кароткі агляд гісторыі Беларусі праз аналіз этнічных і дзяржаўных назваў, што ўжываліся на тэрыторыі Беларусі, такіх як “Русь”, “Беларусія”, “Літва”. Ён адзначыў, што сёнешняя саманазва нашага народу і дзяржавы ёсьць адносна новаю і ня мае за сабою такога моцнага палітычнага і гістарычнага ўплыву, які меў бы назоў Літва, што выкарыстоўваўся нашымі продкамі ў 14-19 ст. ст. і быў перахоплены этнічнымі жмудзінамі ў другой палове 19 ст. Сп. Левіт спыніўся таксама на ўплыве Люблінскай уніі на дзяржаўна-палітычнае разьвіцьцё Беларусі. Гутарка сп. З. Левіта была зь цікавасьцю выслуханая прысутнымі.

Сябар управы Згуртаваньня Яўген Барысевіч перадаў прысутным анкеты пра пытаньні аб зацікаўленьнях, мажлівасьцях і пажаданьнях па ўдзеле ў грамадзкай працы і абяцаў прааналізаваць запоўненыя анкеты і распавесьці пра вынікі на наступным сходзе.

Затым сп. Барысевіч прапанаваў правесьці з мэтаю пашырыць калегаваньне і падставы для знаёмстваў сацыяльную гульню, падчас якой прысутныя абменьваліся з суседзямі інфармацыяй пра сваё паходжаньне, вучобу, зацікаўленьні і найзапамінальны факт пра сябе, а потым, грунтуючыся на пачутай інфармацыі, спрабавалі распавесьці пра суседа ўсёй грамадзе.

Забава прайшла весела і нязмушана, дала магчымасьць прысутным у зьмененым фармаце бліжэй пазнаёміцца зь землякамі, навязаць кантакты, знайсьці асобаў з свае мясьціны або з падобнымі зацікаўленьнямі. Спадзяемся, што ў выніку шмат хто навязаў на сходзе прыемныя знаёмствы.

Затым у разьдзеле “Рознае” прагучэлі аб’явы і паведамленьні. Прысутныя мелі нагоду працягнуць нефармальныя кантакты пры сьціплым пачастунку.

**Віталь ЗАЙКА**

# Псэўда-лібэралізм: самагубства Амэрыкі?

*Віталь ЗАЙКА*

Апошнім часам у грамадзкай думцы Злучаных Штатаў сталі ўсё больш відавочнымі дзіўныя зьявы. Звышдзяржава, што дасягнула найвышэйшага ўзроўню жыцьця, перамагла ўсіх сваіх зьнешніх ворагаў, стала калыскаю процьмы вынаходніцтваў і навуковых дасягненьняў, што паслала чалавека на Месяц і вырабіла лекі ад тысячаў хваробаў – сама зрабілася ахвяраю дзіўнай нутраной хваробы.

Знутры Амэрыкі адбываецца размываньне ідэёвай структуры амэрыканскага грамадзтва. Неаспрэчныя дасягненьні або перакручваюцца і замоўчваюцца, або прыніжаюцца й высьмейваюцца. У яе грамадзянаў, асабліва вучнёўскай і студэнцкай моладзі, культывуецца комплекс віны. Уплыў і аўтарытэт Злучаных Штатаў, іх палітычнай сыстэмы і ладу жыцьця падмяняюцца крытыкай “амэрыканскага імпэрыялізму” і “зьвярынага ашчэру капіталізму”. Гэтыя несправядлівыя і нягеглыя вызначэньні нібы сыйшлі са старонак камуністычнага друку і з савецкіх прапагандовых кніжак пра “іх норавы”. Для чалавека, хто пакаштаваў “рэальнага сацыялізму” і пажыў у “раі для працоўных”, тая крытыка Амэрыкі была б кшталту дрэннага жарту або проста вар’яцтвам, калі б гэтае вар’яцтва не рабілася ўсё больш распаўсюджаным і ўсё больш агрэсіўным.

Сёнешняя самазьнішчальная хваравітая крытыка бярэ свой пачатак у ідэях сацыяльнай справядлівасьці, якімі захапляліся такія агульнапрызнаныя іконы Амэрыкі, як Томас Пэйн, Абрагам Лінкальн і Ўолт Ўітмэн, і якія былі перакручаныя й перайначаныя. Праз неаспрэчаную культурніцкую экспансію сацыялістычных ідэяў, праз астаесамленьне кансэрватыўных ідэяў зь бесчалавечнай эксплюатацыяй і прыгнётам, гуманітарныя навукі Амэрыкі паступова апынуліся пад інтэлектуальным ярмом пэўнага кола ідэяў, што замест стымуляваньня і разьвіцьця свабоды думкі паступова ператварылася ў нешта іншае. Левая скіраванасьць думаньня зрабілася фэцкай, моднай, адзіна вартай увагі. Насамрэч, сёнешнія так званыя лібэралы наўрад ці могуць так называцца. Ад старой, па Вальтэру, лібэральнай формулы: “Мне брыдкія Вашыя пагляды, але я памру за Вашае права іх выказваць” – не засталася нічога. Сёнешнія псэўда-лібэралы (такая назва да іх больш пасуе) хутчэй вызнаюць нешта накшталт: “Хай памруць усе, чые пагляды нам брыдкія”. У навучальных установах, пачынаючы зь першых клясаў школы і ажно па асьпірантуру і дактарантуры, стала стварацца атмасфэра пагарды да дасюлешняй амэрыканскай гісторыі. Яна пачала трактавацца як чарада актаў генацыду, тэрытарыяльных захопаў і субвэрсіяў супраць іншых краінаў і народаў. Нешматлікімі сьветлымі плямамі гэтай гісторыі сталі падзеі, дзе героі – прадстаўнікі неэўрапейскіх “этнічных меншыняў”, напрыклад, Гарлемскі полк у Першую сусьветную вайну або лётчыкі Таскагіадзінкі ў Другую сусьветную, удзельнікі руху за грамадзянскія правы, пратэстоўцы супраць Віетнамскай вайны, а таксама змагары за правы меншыняў сэксуальных.




Адначасна з прыніжэньнем і замоўчваньнем дасягненьняў амэрыканцаў, што каранямі паходзяць з Эўропы, сучасныя псэўда-лібэралы ўсяляк апяваюць і абяляюць людабойчыя рухі й рэжымы з так званага трэцяга сьвету. Гэта стала неад’емнаю часткаю тэорыі мультыкультуралізму, якая сьцьвярджае, што ўсе культуры сьвету абсалютова роўныя і роўнавартасныя. Міты анімістаў, законы шарыяту, Вялікая хартыя вольнасьцяў, рэлігійныя практыкі майя і Канстытуцыя ЗША для мультыкультуралістаў роўназначныя. Больш таго – культпрадукцыя нябелых народаў уважаецца лепшаю і чысьцейшаю, бо “ня мае стыгмы прымусу й паняволеньня іншых”. Постмадэрнісцкая тэорыя дадае да хаосу і вар’яцтва мультыкультуральнасьці яшчэ і рэлятывізм у адносінах да гісторыі й гістарычных фактаў. Згодна з гэтым рэлятывізмам, усё ў гісторыі адносна і залежыць ад інтэрпрэтацыі. Няма абсалютных фактаў, і таму любую зьяву можна патрактаваць як заўгодна. На падставе гэткага інтэлектуальнага махлярства мацнее самаўпэўненая прэтэнзія псэўда-лібэралаў на манаполію “правільных” поглядаў. А таксама нецярпімасьць да іншых паглядаў і апініяў.

Згодна з трызьненьнямі псэўда-лібэралаў, заходняя цывілізацыя ня можа лічыць сябе лепшаю за якую іншую цывілізацыю, прыкладам – ісламскую. Хутчэй наадварот. Паколькі Захад “запляміў” сябе каляніялізмам ды імпэрыялістычнымі войнамі, ён ня можа мець “права голасу” ў супрацьстаяньні з іншымі культурамі. Самае лепшае, што ён можа зрабіць – гэта капітуляваць, саступіць месца іншым культурам ды іх носьбітам. Гэта найбольш выразна сфармулявана ў кнізе “Арыенталізм” колішняга прафэсара Калюмбійскага ўнівэрсытэту палестынца Эдварда Саіда. Праз гэткіх “акадэмікаў” на ўнівэрсытэтах ды праз асноўныя мэдыя каналы вядзецца індактрынацыя ў духу: “чалавек зь цямнейшай скурай заўсёды мае больш рацыі”, свайго кшталту вывернуты расізм. Менавіта дзеля гэтага сёньня ў Амэ-

*Заканчэньне на 7-й бачыне*

# “Вось за гэта і пакараньне”

**Зянон ПАЗЬНЯК**

Упошні час антыбеларускі рэжым перастаў маскавацца пад законнасьць і пачаў адкрыта дэманстраваць рэпрэсіўную вайну супраць беларускага народу і ягоных лепшых прадстаўнікоў.

Вайна пачалася адразу з 1994-га году (пачатак ўлады Лукашэнкі), але да 19-га сьнежня мінулага году этнацыд маскавалі пад змаганьне з “апазыцыяй” і ўсімі, “хто супраць прэзыдэнта”. Пасьля 19-га сталі хапаць і біць усіх, хто трапляўся пад руку і пад падазрэньне КГБ. Выконваецца задача, падобная да вайсковай апэрацыі: прэвэнтыўная зачыстка сацыяльнага поля грамадзтва і ўсяленьне страху ў сьвядомасьць нацыі.

Пад гэтую тыпова акупацыйную задачу падганяюцца і рэжымныя “законы”, ацэнкі і дзеяньні.

Рэжымнае заканадаўства, якое характарызуецца праўнай неадэкватнасьцю, набывае рысы гратэскнай фантастыкі. Узьнік нават праект караць людзей (арыштоўваць) за бязьдзейнасьць і прысутнасьць на вуліцы. Заканадаўча замацавалі поўную свабоду дзейнасьці спэцслужбаў супраць цывільнага насельніцтва і поўную беспакаранасьць КГБ. КГБ можа ўламывацца ў жыльлё беларуса без санкцыі пракурора, зыходзячы са сваёй “мэтазгоднасьці”. І калі ў выніку ўламаньня будзе забіты нехта з уладальнікаў жыльля ці там прысутных асобаў, гэбісты ня будуць несьці ніякой адказнасьці. Такое “заканадаўства” — прыкмета ваеннага часу ў акупацыйным рэжыме. У мірны час дзейнічаюць іншыя прынцыпы права і функцыі КГБ.

Рэжым узмоцнена (я б сказаў, татальна) уцягвае міліцыю ў палітычныя рэпрэсіі супраць народа. Прагучэла нават патрабаваньне кіраўніка ўлады, каб міліцыя пры гэтым забылася на прыстойнасьць, ня думала, як будуць ацэненыя яе паводзіны, а дзейнічала жорстка.

І гэта пры тым, што ў самой Беларусі палітычная сытуацыя спакойная (каб не сказаць “балотная”), грамадзянская супольнасьць разбураная, пануе маўчаньне і стабільны страх. Вайна з народам (пэрманэнтная вайна) адбываецца з аднаго боку — з боку рэжыму.

Самы подлы прыём, на які ня раз адважвалася антынародная ўлада, — гэта імітацыя тэракту, калецтва і забойства людзей (“прынцып Лёзна”).

У 2008-м годзе інсьпіраваны “тэракт” даў падставы ўзурпатару распачаць татальную дактыляскапію беларусаў. Такая мера ёсьць складоваю часткаю палітыкі этнацыду, якую адкрыта робіць рэжым (насаджэньне страху, кантроль над асобаю).

Некалькі гадоў таму, калі рэжымным КГБ кіраваў расейскі вайсковец генэрал Жадобін, ён з салдафонскаю прасталінейнасьцю паведаміў аб зьмесьце сваёй працы, у выніку якой быў складзены сьпіс 1767 актыўных беларусаў, якіх у выпадку грамадзкага абвастрэньня (па словах генэрала) “нэўтралізуюць” у першую чаргу.

Паколькі вайна “пэрманэнтная”, складаньне “сьпісаў” на рэпрэсіі не спыняецца ўжо 17 гадоў. Нядаўна на Дзяды ў Менску адбылося традыцыйнае Крыжовае шэсьце ў Курапаты. Шэсьце было афіцыйна дазволена двума выканкамамі — гарадзкім і абласным — былі ўзгоднены час і маршрут. І тым ня менш журналісты налічылі два дзясяткі пераапранутых “ціхуноў”, якія пастаянна здымалі ўсіх людзей на фота- і відэа-камэры. Такія дзеяньні неадэкватныя па мерках мірнага часу і не вынікаюць з праўнай сытуацыі. Навошта ўлада гэта робіць? Дзеля чаго? А дзеля таго ж. Дзеля сьпісу нацыянальна актыўных беларусаў, дзеля рэестру “сьвядомых”, “урагоў”, якіх “нада ўнічтажаць” (а пакуль што запалохаць).

Хада пастаяннай вайны зь беларусамі і нязьменныя ўстаноўкі рэжымнага этнацыду ўвесь час асімілявалі зьнешнія падзеі, канфлікты і раздражняльнікі ў сваё антыбеларускае рэчышча. Якія б ні былі “газавыя”, “нафтавыя”, “малочныя”, “цукровыя” і іншыя канфлікты з Крамлём, якая б ні была рыторыка, якія б ні разыгрываліся спэктаклі і інсцэніроўкі з Расеяй, — унутраная антыбеларуская палітыка рэжыму ніколі не зьмянялася. Наадварот, любыя зьнешнія падзеі рэжым стараўся скарыстаць для яшчэ большага прыдушэньня беларусаў, беларускай асобы, свабоды і культуры.

На цяперашнія паводзіны ўзурпатара ўплываюць два зьнешнія чыньнікі: пазыцыя Расеі (якая пачала заганяць яго ў кут) і разгром рэжыму Кадафі ў Лібіі. Паранойная рэакцыя на гэтыя раздражняльнікі спарадзіла тыпова паранойную лёгіку і адпаведныя дзеяньні па абароне ад небясьпекі (тэрытарыяльная абарона, новае 120-тысячнае войска, ваенізацыя ўладнай вэртыкалі, падрыхтоўка да партызанскай вайны, пазыцыянаваньне сябе ў ролі ваеннага стратэга, галоўнакамандуючага, спасылкі на падкопы “сусьветнай закулісы” і г. д.).

Трэба мець на ўвазе, што рэжым узурпатара ўлады ў Беларусі не праводзіць нацыянальнай дзяржаўнай палітыкі. Гэта тып адзіналічна-карпаратыўнай улады, якая прыватызуе дзяржаву ў сваіх інтарэсах. Уся палітыка такой улады прадыктаваная гэтымі яе прыватнымі інтарэсамі.

Па аналягічнай схеме была пабудаваная ўлада Кадафі з той істотнай розьніцай, што Лібія — рэсурсная (нафтавая) краіна, і дыктатар не зьнішчаў шматаблічную культуру сваёй нацыі. Канцэпцыя ягонай улады грунтавалася на клясычным фашысцкім падыходзе. Правадыр і ягоная група ўлады забясьпечваюць грамадзтву матэрыяльны дабрабыт і гарантаванае сацыяльнае існаваньне (і Кадафі забясьпечыў тое), але адлучаюць народ ад удзелу ў кіраваньні дзяржавай, ад палітыкі і свабоды (маўляў, за народ паклапоціцца фюрэр). Аднак людзі, калі яны не апускаюцца да “скоцкага” стану (ад купалаўскага “ня быць скотам”), рана ці позна пачынаюць змагацца за свабоду.

Мэтадалёгія разуменьня ўлады Лукашэнкам у гэтым сэнсе такая, як у Кадафі, — тыпова фашысцкая (і раўненьне на Гітлера тут не выпадковае), але ідэалёгія ягонай палітыкі забясьпечваецца рэсурсным цэнтрам іншай дзяржавы і залежная ад яе. Таму ягоны гэбісцкі фашызм (гэбізм) і ўся ўладная сыстэма ёсьць прамаскоўская, антынацыянальная, антыбеларуская. Дый не дыктатар ён, а тыповы сатрап маскоўскі, ня гледзячы на ўсю ягоную квазі-самастойную рыторыку і жаданьне стаць крамлёўскім царом.

Тут прыдзецца сказаць пра рэчы добра вядомыя сярод палітыкаў за мяжой і ў Беларусі, але пра якія мала пішацца (з пэўных прычынаў). За-

ходнія экспэрты ацэньваюць украдзены ў народа набытак Лукашэнкі прыблізна ў 10-12 мільярдаў даляраў (асабісты капітал Кадафі – у 200 мільярдаў).

Скрадзеныя грошы Лукашэнка трымаў у сэрбскім банку зь ведама Мілошавіча (“друг Слабадан”). Перад крахам Мілошавіча ў 2000-м годзе гэтыя грошы былі вывезеныя. (Апэрацыяй пагрузкі грошай на транспартны самалёт кіраваў старэйшы сын узурпатара. Для перавозкі даляраў з банку на борт самалёта Мілошавіч выдзеліў яму вайсковыя браневікі. Самалёт падняўся ў паветра і ўзяў курс на Лібію.)

З таго часу ў Лукашэнкі зьявіўся “друг Муамар” і пачынаюцца незразумелыя ўзаемныя візыты. У верасьні 2011-га году (калі “друг Муамар” быў яшчэ жывы), у Менскім аэрапорце прызямліўся транспартны самалёт, які прыляцеў зь Лібіі невядома з чым. Гэтая падзея была адлюстраваная нават у беларускіх СМІ. Але беларускія журналісты ў такіх выпадках малацікаўныя, і тэма зьнікла з інфармацыі.

“Няведама што” – гэта якраз “тое самае”, плюс, як паведамляюць, частка грошай самога Кадафі.

Дзе цяпер гэты “скарб”, можна толькі здагадвацца. Але грошы зь Лібіі вывезеныя, рэйс быў, і самалёт у Менскім аэрапорце прызямліўся. Хаця тэарэтычна сваю “форсу” ўзурпатар мог бы завесьці таксама ў якую іншую рэжымную краіну (ужо зь Менску).

Тым часам цяперашнія паводзіны Лукашэнкі ўскосна сьведчаць пра важкі зьмест верасьнёўскага авіярэйсу. Узурпатар рыхтуецца ваяваць за ўладу і майно. Яму ўсюды здаюцца ворагі: і з Захаду, і з Усходу, і знутры. Уцякаць ужо няма куды. Улада і майно, як стопудовая гіра на нагах, прывязалі яго да зямлі, якую ён ніколі не шанаваў, да нелюбімага народу, які ён гатовы загнаць у зямлянкі. І калі паўстане выбар паміж уладаю і народам, паміж народам і майном – будзьце пэўныя – пасыплюцца і кулі, і бомбы на галовы “сьведамых” і “нясьведамых”, “чэсных” і “нячэсных”, “вашывых блох” і “адмарозкаў”. Гэты чалавек ужо даказаў, што ён здольны на забойства. Урэшце рэшт нянавісьць чалавека, надзеленага абсалютнай уладай, мае заўсёды прадказальны вынік і прадказальны зыход.

І цяпер трэба ўсё ж пагаварыць пра тое, пра што мне ніколі гаварыць не хацелася з прычыны грамадзкай бяссэнсавасьці такой гаворкі – пра нашу нацыянальную ганьбу і сорам.

Як так сталася, што разумны працавіты народ разьвітай краіны з індустрыяльным грамадзтвам, адукаваным насельніцтвам і інтэлігенцыяй, з высокай гістарычнай культурай паставіў над сабою і надзяліў уладай вар’ята, хама, паранойную асобу, чалавека неадэкватнага, злога, амаральнага, бескультурнага, неадукаванага, які адкрыта выказваў нянавісьць да мовы, культуры, свабоды і незалежнасьці народу, таго народу, які яго выбіраў. І гэта ў краіне, якая толькі што здабыла незалежнасьць. Парадокс, сюррэалізм, абсурд – але факт.

Абсурд немцаў, якія ў 30-х гадох мінулага стагодзьдзя паставілі над сабою нэўрастэніка, малаадукаванага яфрэйтара і фашыстаў, вынікаў з эканамічнага крызісу, зь вялікай дэпрэсіі і зь зьняважанага нацыянальнага пачуцьця, прыніжанага Вэрсальскім замірэньнем. Матывацыя грамадзтва была прымітыўнай, але адэкватнай: вырвацца з абцугоў крызісу і рэпарацый, вярнуць страчанае.

У Беларусі адбылося з дакладнасьцю наадварот. Алягізм паводзінаў грамадзтва, якое паставіла над сабою Лукашэнку, вынікаў з сацыяльна-эканамічнага крызісу, зьніжэньня ўзроўню жыцьця і адсутнасьці нармальнага нацыянальнага пачуцьця. Матывацыя была прымітыўнай і неадэкватнай: вярнуцца ў сацыялізм, у разьмеркаваньне, у клетку, адкуль толькі што выскачылі.

Такім чынам нацыянал-сацыялізм Гітлера (скарочана “нацызм”) і люмпен-сацыялізм Лукашэнкі прыводзяць да аднолькавых палітычных вынікаў – да фашызацыі ўлады, з той, аднак, розьніцай, што нацызм, накіраваны на экстэнсіўнае (агрэсіўнае) разьвіцьцё і пашырэньне дыктатуры, а люмпен-сацыялізм (лукашызм) скіраваны на самога сябе, на суіцыднае вынішчэньне грамадзтва. Карэляцыя з паранойнай асобай тут адпаведная.

Тое, пра што я тут пішу, Народны Фронт казаў і 17, і 18 гадоў таму. Мне прыходзілася казаць пра антынацыянальны рэжым, пра нашую народную небясьпеку ўвесь час, заклікаць падумаць, паглядзець, азірнуцца. І тут былі найбольшыя ўдары і найбольшы тупік. Адукаваныя людзі глядзелі на відавочнае і ва ўпор, наўпрост нічога ня бачылі. Слухалі яго коснаязычныя, непісьменныя разважаньні, яго дрымучае хамства, крыклівасьць, зьвяртаньне да ўсіх на “ты”, зьнявагі нацыянальнай годнасьці і культуры, слухалі і – ня чулі. Гэта шакавала.

Дэнацыяналізацыя, нацыянальная няразьвітасьць сьвядомасьці і нацыянальная сьлепата такая ж (і нават больш) небясьпечная грамадзкая паталёгія, як і агалцелы, ірацыянальны вялікадзяржаўны (гітлерскі) шавінізм. Гэта ёсьць жыцьцё бяз волі і нежаданьне свабоды.

У Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня да дэпутата Лукашэнкі адносіліся аднолькава грэбліва і без павагі як Апазыцыя БНФ, так і камуністы. Нястрыманая балбатлівасьць ля мікрафону, дэвіянтныя паводзіны, сыстэматычная лягічная амбівалентнасьць у выступах (на раніцы казаў адно, вечарам – адваротнае), падазронасьць, скандальная крыклівасьць у дыскусіях і ўвогуле – нейкая характэрная для яго “лапцюжнасьць” у захаваньні – усё гэта бачылі ўсе і сур’ёзна яго не ўспрымалі. Дэпутаты часта былі сьведкамі ягоных дзіўных выхадак, якія адэкватна нельга было растлумачыць.

Усё тое мы ведалі і бачылі яшчэ тады, у Вярхоўным Савеце, ведалі пра інфантылізм псыхікі, пра бязроднае паходжаньне, пра скандальнасьць у сям’і і разрыў з жонкаю, ведалі пра зьбіцьцё трактарыста, і як яго ратаваў ад турмы сакратар магілёўскага абкама КПБ(КПСС) Васіль Лявонаў, ведалі пра ягоную вечную падазронасьць, вечныя пошукі ворагаў, службу ў турме, у КГБ, ведалі пра ягонае бахвальства, хлусаманію, некамунікабэльнасьць, саветызм, беларусафобію і помсьлівасьць.

Нікому не магло нават прысьніцца ў страшным сьне, што такая асоба стане прэзыдэнтам незалежнай Беларусі. Увесь яго дэвіянтны спосаб захаваньня, паводзіны і лёгіка думаньня цалкам укладваліся ў псыхічны эпікрыз паранойі. Мала хто ў гэтым сумняваўся, але сур’ёзна не адносіліся. З паранойяй жыве мноства людзей, працуюць, псуюць кроў супрацоўнікам і суседзям, жонцы, мужу, дзецям, сварацца, б’юцца, судзяцца, пішуць кляўзы і творы мастацтва. Але адна справа – дырэктар саўгаса, іншая – прэзыдэнт краіны. Апазыцыя БНФ (выступаў Сяргей Навумчык) нават паставіла пытаньне аб прыняцьці пастановы Вярхоўнага Савета пра абавязковае мэдыцынскае абсьледваньне Лукашэнкі, але дэпутаты-камуністы завалілі гэтае пытаньне.

Неверагоднае адбылося, бо ў тым дэнацыяналізаваным грамадзтве, што

***Працяг на 6-й бачыне***

# “Вось за гэта і пакараньне”

*Працяг з 5-й бачыне*

засталося ў спадчыну ад камунізму, такое магло стацца: Лукашэнку зрабілі прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь.

І цяпер – якія вынікі (а вынікі ўжо ёсьць) гэтага грамадзкага асьляпленьня? (Я кажу “грамадзкага”, бо вынікі немагчымыя былі пры адным Лукашэнку. Дзеля гэтага патрэбная была маніпуляцыя грамадзтвам і мільёны лукашэнак.)

Маладая дзяржава ідэёва стабілізуецца і становіцца на нацыянальныя ногі, калі ў сфэры ідэалаў свабоды і незалежнай нацыянальнай палітыкі вырастае новае пакаленьне (патрэбна мінімум дваццаць гадоў). Гэта ёсьць працэс росту. Ён прывязаны да часу гэтак жа, як і разьвіцьцё чалавека. Ён абавязковы. Адтэрміноўка яго і разьвіцьцё ў неадэкватных ўмовах прыводзіць да збочаных дэфармацыяў, спараджае скалечанае грамадзтва, далейшае існаваньне якога ператвараецца ў пакутлівую тэрапію змаганьня за духоўнае і культурнае выжываньне нацыі.

Першае пакаленьне незалежнай Беларусі вырасла ў змроку антыбеларускай палітыкі.

Тое, што дзяцінства і юнацтва нашай незалежнай дзяржавы адбывалася ў несвабодзе, у цемры і нянавісьці антынацыянальнага астракізму, дало такія шкодныя вынікі, якія прыроўніваюцца амаль што да катастрофы, калі б яшчэ не захавалася, не зьбераглося сьветлае, добрае, чыстае, што ёсьць ў лепшых нашых людзях.

Палітыка антыбеларускай хунты пабудаваная на антыбеларускасьці, нянавісьці, хлусьні, хамстве, страху і рэпрэсіях.

Груба парушаная Канстытуцыя і сувэрэнітэт Беларусі – ліквідаваная дзяржаўная мяжа на ўсходзе (а гэта выбраная пагроза незалежнасьці); заключаныя незаконныя антыканстытуцыйныя пагадненьні аб незаконнай “саюзнай дзяржаве” з Расеяй, што кваліфікуецца як здрада Радзіме, і дало магчымасьць чужой дзяржаве бесьперашкодна сьцягваць і забіраць беларускую рабочую сілу, рабаваць таварны рынак, беларускую маёмасьць і тэрыторыі, кантраляваць сыстэму ўлады і працэсы ў краіне. Гэта злачынства, якое патрабуе вышэйшага абавязковага пакараньня.

Грунтоўна падарвана нацыянальная культура, дыскрымінавана беларуская мова, вынішчана беларуская школа і адукацыя, кнігавыдавецтва і перыядычны друк, ліквідавана нацыянальнае радыё і тэлебачаньне, падарвана мараль і дэмаграфія, навука і мастацтва, заведзена ў тупік эканоміка, дэзарганізавана фінансавая сыстэма. Усе гэтыя разбурэньні нацыянальнага жыцьця значна глыбейшыя і больш зьнішчальныя, чым былі яны зроблены за 73 гады савецкай акупацыі.

За гэты цёмны час дно зрабілася верхам. Людзі неадукаваныя, цёмныя, прымітыўныя, злыя, малакультурныя, – сталі начальнікамі, падняліся ўгару ва ўладу, сталі кіраваць нацыяй, гарадамі, раёнамі, адукацыяй ды культурай. Палітыка, узгадаваная на паранойнай нянавісьці, раскалола беларускае грамадзтва і ўнесла гэтую ірацыянальную нянавісьць у рэальнае жыцьцё людзей. Зроблена вялікае злачынства. Народ не павінен ненавідзець – сябе.

Другім жахлівым вынікам паранойнага рэжыму ёсьць ліквідацыя грамадзкіх ідэалаў (і ўвогуле – ідэалаў). За 17 гадоў ненармальнасьці страчана цэлае пакаленьне беларусаў. Зьявілася шмат людзей з заніжанай жыцьцёвай арыентацыяй, без духоўных запатрабаваньняў і з “псыхалёгіяй травы”.

У адным з артыкулаў журналістка Сьвятлана Калінкіна прыводзіць вымоўную статыстыку конкурсных запатрабаваньняў пры паступленьні ў вайсковыя вучэльні. Самыя вялікія конкурсы жадаючых – не на лётчыкаў, а ва ўнутранае войска, у ахову і на вайсковыя спэцыяльнасьці тылу. Юнакі страчанага пакаленьня імкнуцца стаць турэмшчыкамі і тылавымі пацукамі, інтэндантамі, каб зарабляць і не рызыкаваць. Турэмшчык – прэстыжная прафэсія!

Жыцьцё ў несвабодных умовах, у штодзённым, інсьпіраваным зьверху хамстве, у дэфармаванай небеларускай школе і ўнівэрсытэце рэзка абнізіла культуру, веды і адукацыю несвабоднага пакаленьня беларусаў. Сорамна казаць, але на Захадзе іх адразу пазнаеш па бескультур’ю, няўменьні сябе паводзіць зь людзьмі і няведаньні роднай мовы.

Вынік рэжыму – катастрафічнае разбурэньне і дэградацыя беларускай вёскі, пашырэньне п’янства, падрыў этнічнай асновы народа.

Але самы цяжкі вынік этнацыду і паранойнай сыстэмы ўлады ёсьць усё ж пакаленьне без ідэалаў, бяз мовы, бяз гонару, бяз сьведамасьці і нацыянальных абавязкаў.

Зрэшты, усё гэта, хоць і вялікая, але пасыўная частка пакаленьня (і ў цэлым – зьявы). Ёсьць шмат моладзі, якая актыўна не ўспрымае ўзурпатара і ягоную палітыку, якая шукае ідэалы існаваньня і знаходзіць іх у вольнай Беларусі, за якую трэба змагацца. Гэтая моладзь, як пасталее, як бы ня нішчыў яе рэжым, вызначыць будучыню краіны.

Я невыпадкова зьвяртаю ўвагу на псыхічную падкладку ўлады антыбеларускага рэжыму. Тут адказ на шмат якія пытаньні. Абсалютна беспэрспэктыўныя ўсялякія дзеяньні беларусаў, накіраваныя на перамовы, пагадненьні, патрабаваньні, зразуменьні ці супрацоўніцтва з Лукашэнкам. Тут не было і ня будзе ніякіх зрухаў ні на каліва, ні на ёту. Не палепшаць, ня зьменяць ніякое выбарчае заканадаўства, не адчыняць ніякую новую беларускую школу, не адчыняць ніякі новы беларускі часапіс, не зарэгіструюць ніякую партыю і арганізацыю і г. д. Увогуле, не было і ня будзе з шчырага калабаранцкага канфармізму з вар’ятам нічога. Ня трэба ганьбіцца і марнаваць час. Ці 17 гадоў было мала? Ужо граблі разагрэліся, не вытрымліваюць, а ілбам – хоць бы што!

Прычына ня ў цьвёрдасьці і не ў аргумэнтах узурпатара, а ў ягоным эпікрызе. Калі каму не хапае вопыту і ведаў, можна пагаварыць зь любым псыхіятрам, і ён растлумачыць, як фармуецца лёгіка і псыхіка паранойі. Ворагі тут існуюць і ўзьнікаюць пастаянна, і гэты працэс ніколі не спыняецца. Ён пэрманэнтны. Сябры рана ці позна абавязкова робяцца ворагамі (пытаньне часу). З ворагамі, паводле такой псыхікі, нельга суіснаваць, з ворагамі трэба змагацца і перамагаць (улада дае магчымасьць зьнішчаць). Ворагі маскіруюцца. Ворагаў трэба выяўляць і г. д. Тут цэлая лягічная сыстэма паводзінаў цалкам рацыянальная, дзе неадэкватнай і памылковай ёсьць толькі зыходная ідэя. Параноіка яшчэ ніхто ніколі ні ў чым не пераканаў (нават псыхіятры), у яго задушана пачуцьцё гумару. Будзеш шмат пераконваць – узбудзіш падазрэньні, пачнеш жартаваць – лепш не жартаваць. Тым часам ёсьць людзі, перад якімі параноік псыхічна капітулюе. Яго можна моцна напалохаць. Яго псыхікай мож-

на маніпуляваць. І ў гэтым – вялікая небясьпека такіх людзей, асабліва ва ўладзе, асабліва ў краіне, дзе таемныя структуры кантралююцца з вонку.

Цяпер, калі ўзурпатар пачаў адкрытую прэвэнтыўную вайну з народам, ужо нават самыя цьвёрдагаловыя пачынаюць разумець, што хадзіць на выбары і падтрымліваць рэжым ня трэба, што тактыку абструкцыі і байкоту рэжыму трэба было пачынаць даўно.

Зараз вельмі істотна хутка накапіць нацыянальныя сілы і ня даць іх справакаваць, зьнішчыць па частках. Дзеля гэтага трэба шматкроць пашырыць сыстэму паралельнай нацыянальнай асьветы актыўных пластоў грамадзтва (найперш распаўсюд літаратуры і інфармацыі). Бяз гэтага ня будзе перамогі. Трэба памятаць вопыт 90-х, калі авангард перамог, а грамадзтва аказалася не гатовым да разуменьня нацыянальнай палітыкі. Асьветніцкія сілы і магчымасьці ў беларусаў ёсьць, патрэбна толькі гатовасьць і рашучасьць працаваць дзеля Айчыны.

Віртуальны стан абложанай крэпасьці, у якім зараз існуе псыхіка Лукашэнкі, узмацненьне рэпрэсій і падрыхтоўка да вайны аўтаматычна зымушае беларусаў гуртавацца і дзейнічаць паралельна, схавана і няяўна, строга рэглямэнтуючы легальныя дзеяньні. Ёсьць шмат добрых справаў, якія можна рабіць эфэктыўна і плённа, не выходзячы (да пары) на паверхню. Тым часам культурная праца павінна разьвівацца адкрыта. Гэта вялікая сіла, вялікія магчымасьці ў змаганьні з цемрай. Трэба іх скарыстаць.

Раздумляючы пра 17 страчаных гадоў, пра сорам і ганьбу, пра спакойны, працавіты, добры наш народ, пра грамадзкі абсурд і гістарычнае пакараньне, я задаў аднойчы нечакана наўпрост пытаньне прыяцелю, які патэлефанаваў мне адтуль, зь Беларусі, з нашага сьветлага летуценнага раю, ператоранага ў стойла страху і паняверкі:

– Скажы, чаму наш добры вялікі народ скарыўся перад цемрай і стаў жыць у страху, бяз гонару і павагі? Чаму так сталася?

Доўгая маўчанка. І потым чую:

– Гэта ёсьць пакараньне Божае за нелюбоў да сябе. Гасподзь даў нам жыцьцё, таленты, мову, зямлю, волю, культуру, а мы адрынулі дар Божы, кінулі сьвіньням пад ногі. Вось за гэта і пакараньне.

*Лістапад 2011 г.*

# Псэўда-лібэралізм: самагубства Амэрыкі?

***Заканчэньне з 3-й бачыне***

рыцы зацятыя псэўда-лібэральныя левакі-атэісты блякуюцца з ісламісцкімі цемрашаламі ў атацы на заходнія каштоўнасьці.

Гэта выраўна выявілася ў падзеях восені 2011 году, калі так званы рух "Акупуй Ўол-Стрыт" (АЎС) прымаў лёзунгі й масавыя модлы ісламістаў у сэрцы Мангэтану. Для АЎС, як і для кожнага псэўда-лібэрала, справаю гонару ёсьць апляваць і зьняважыць грамадзтва і эканамічную сыстэму, пладамі якой, у выглядзе айподаў, інтэрнэту ды айфонаў, яны з такім імпэтам і захапленьнем карыстаюцца. Крывадушнасьць самазакаханых лайдакоў з АЎС і падступная крывадушнасьць ісламістаў, што імкнуцца паступова накідаць прыняўшаму іх грамадзтву варожыя для яго і для дэмакратыі наагул сярэднявечныя мадэлі жыцьця – ідуць рука ў руку.




Традыцыйная заходняя ідэя свабоды думкі для псэўда-лібэралаў усяго толькі ілюзія, толькі маска, якая "хавае за сабою ўладу, што зьнявольвае ўсіх, хто ня ёсьць белы заходні мужчына". Адпаведна, той, хто ёсьць белым заходнім мужчынам, што б ён не казаў у сваю абарону або апраўданьне, ня мае і ня можа мець ніякай рацыі. Ягоныя пагляды, ягоныя вартасьці, ягоныя думкі трэба "выкрываць" або проста ігнараваць. Пры гэтым псэўда-лібэралы крывадушна і бессаромна прызнаюць "сваімі" тэарэтыкаў мультыкультуралізму і постмадэрнізму "белых заходніх мужчынаў" Фуко, Дэрыду, Лякана і г. д. І таму на практыцы мультыкультуралізм выліваецца ў жорсткую аўтарытарную дактрыну, якая стварае рэальныя абмежаваньні й перашкоды для свабоды думак і выказваньняў. Парадаксальна, што гэта адбываецца не ў Туркмэністане і не ў Паўночнай Карэі, а ў краіне – флягмане Вольнага сьвету.

Амэрыка, найзаможнейшая і наймагутнейшая краіна сьвету, праходзіць праз нялёгкі пэрыяд. Яе прэзыдэнт публічна выбачаўся перад антыдэмакратычнымі арабскімі рэжымамі за моц і заможнасьць Амэрыкі. Ён рэзка зьменшыў падтрымку разьвіцьця дэмакратыі ў сьвеце. Слова "Беларусь", бадай, ані разу за тры з гакам гады не зьлятела з прэзыдэнцкіх вуснаў. Выглядае, што цяперашняя амэрыканская ўладная эліта стыдаецца і брыдзіцца моцы й уплыву сваёй краіны на міжнароднай арэне. Заняпад уплыву Злучаных Штатаў выразна кантрастуе з уздымам актыўнасьці ісламісцкіх сілаў, яднаньне іх зь леварадыкальнымі рэжымамі ў Лацінскай Амэрыцы, а таксама з Расеяй і рэжымам Лукашэнкі ў Беларусі. Нахабныя дзеяньні ісламістаў Ірану ў Пэрсыдзкай затоцы і ў іншых месцах, іранскія атамныя амбіцыі, падступныя махлярствы Пакістану, спансараваньне Расеяю ворагаў Амэрыкі не атрымліваюць адэкватнага адказу збоку ўраду і галоўнае – дэфармаванай псэўда-лібэралізмам грамадзкай думкі Амэрыкі. Некампэтэнтнасьць і правалы сёнешняй адміністрацыі ў зьнешняй палітыцы могуць зраўняцца хіба толькі зь яе некампэтэнтнасьцю і правaламі ў палітыцы эканамічнай. Амэрыканскае грамадзтва фрагмэнтаванае і падзеленае на варагуючыя фракцыі, зносіны са сьветам уяўляюць сабою складзеныя абыяк і супярэчлівыя праекты. Аднак моц і жыцьцёва сіла Амэрыкі, якая ня раз падпадала іспытам і выпрабаваньням, заўсёды перамагала. Як перамагала яе вера ў вольнае і непрымаючае кайданоў фізычных ды інтэлектуальных грамадзтва, разьвіцьцё асобы ды імкненьне да самарэалізацыі яе ў славутай "амэрыканскай мары". ✦

# Карысьці ад АЭС ня будзе, а толькі рызыка і небясьпека

15 верасьня 2011 году А. Лукашэнка падпісаў указ № 418 “Аб разьмяшчэньні і праектаваньні атамнай электрастанцыі ў Рэспубліцы Беларусь”. З гэтай нагоды некаторыя беларускія эколягі зьвярнуліся да прэзыдэнта Расеі Д. Мядзьведзева, каб той адмовіўся ад фінансаваньня будаўніцтва АЭС і спыніў удзел Расеі ў гэтым праекце.

Занепакоенасьць эколягаў безумоўна абгрунтаваная і шчырая. Яны добра разумеюць магчымыя і вельмі верагодныя наступствы апантанага імкненьня рэжыму, насуперак здароваму сэнсу і нацыянальным інтарэсам, пабудаваць па сумніўнай расейскай тэхналёгіі ў сэйсмічна неспакойнай зоне такі небясьпечны аб'ект, якім ёсьць АЭС. Думаю, большасьць беларусаў, якія зь вялікімі стратамі перажываюць наступствы катастрофы, што адбылася на Чарнобыльскай АЭС, пабудаванай па расейскім праекце, таксама занепакоеныя ўпартасьцю рэжыму. Толькі ня варта прасіць літасьці ні ў беларускага, ні ў расейскага рэжымаў, бо гэта іх узгодненае сумесна прынятае рашэньне. І ў гэтым сэнсе экалягічная бясьпека ці нацыянальныя інтарэсы беларускага народу іх не цікавяць. Такая ўжо прырода абодвух рэжымаў.

Зусім па-іншаму ў дэмакратычных краінах, дзе галоўным прыярытэтам ёсьць нацыянальныя інтарэсы. Аварыя на японскай АЭС “Фукусіма-1” прывяла да забруджваньня вялізнай тэрыторыі, хоць і значна меньшай, чым пры аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Аднак японскія ўлады вырашылі паступова адмовіцца ад выкарыстаньня АЭС у нацыянальнай энэргетыцы. Пра гэта заявіў на прэс-канфэрэнцыі ў Токіё міністар эканомікі, гандлю і прамысловасьці Японіі Ёсіа Хаціра (дарэчы, для роздуму: чаму ў Японіі на ўсе тры галіны толькі адзін міністар, а ў Беларусі – аж тры?).

Раней рашэньне пра паступовае закрыцьцё атамных станцый прыняла Нямеччына... Кіраўніцтва гэтых дзяржаў разумее, што непрадказальных момантаў з АЭС надта многа, і дасягнуць поўнай бясьпекі АЭС немагчыма, тым больш немагчыма ліквідаваць наступствы аварыі на ёй. Пры гэтым варта заўважыць, што такія адказныя рашэньні прынялі краіны, якія па свайму тэхналягічнаму ўзроўню значна пераўзыходзяць Расею.

Нарвэгія, якая была трэцяй краінай у сьвеце, што пасьпяхова запачаткавала досьледны ядзерны рэактар (пасьля ЗША і СССР), хоць і праводзіць ядзерныя дасьледваньні, але ядзерную энэргетыку, як галіну прамысловасьці, вырашыла не разьвіваць.

У Аўстрыі й Італіі адмовіліся ад атамнай энэргетыкі пасьля ўсенароднага абмеркаваньня (нацыянальныя рэфэрэндумы). У Аўстрыі цалкам гатовы рэактар так і ня быў уведзены ў эксплюатацыю, а Італія на працягу года пасьля рэфэрэндума закрыла ўсе свае АЭС. Паступова адмаўляюцца ад ядзернай энэргетыкі і іншыя краіны (Бэльгія, Нідэрлянды).

У сваім апошнім пасланьні да беларускага народу і нацыянальнага сходу А. Лукашэнка заявіў: “Я прыняў рашэньне будаваць АЭС, я нясу за гэта адказнасьць”. А дзе ж наш народ – адзіная, у адпаведнасьці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, крыніца дзяржаўнай улады? Чаму нашыя людзі не рэагуюць на хлусьлівыя заявы рэжыму пра жыцьцёвую неабходнасьць АЭС? І што людзям зь яго “адказнасьці”.

Па словах А. Лукашэнкі, “атамная электрастанцыя нам жыцьцёва неабходная. Пабудаваўшы АЭС, мы станем на чвэрць меней купляць газу ў Расіі”. Да таго ж, па ягоных словах “электраэнэргія, выпрабленая на АЭС, на 50 % таньнейшая, чым атрыманая на газавых ТЭЦ”. Гэтыя ягоныя выказваньні не адпавядаюць сапраўднасьці. Прыхільнікі беларускай АЭС, калі ласка, пацьвердзіце таннасьць атамнай энэргетыкі лічбамі.

Размовы пра таннасьць электраэнэргіі, выробленай на АЭС, ёсьць міт, які распаўсюджвае атамнае лобі. Атамная энэргетыка ніколі не была таннай. Яе могуць дазволіць сабе толькі багатыя краіны, якія праз сыстэмы схаванага і непасрэднага субсідыяваньня гатовыя падтрымліваць нізкія тарыфы на электраэнэргію, выробленую на АЭС. У сувязі з гэтым нагадаю, што кошт 1 кВтг электраэнэргіі, выробленай на АЭС, перавышае кошт электраэнэргіі, выробленай на:

- парасілавых станцыях у 2,3 – 2,8 разы;
- газа-мазутных – у 1,9 – 2,3 разы;
- вугальных – у 1,5 – 1,9 разы;
- комплексу малых ГЭС, або комплексу ветраэнэргетычных станцый – у 1,6 – 2,8 разы (*Энергия и менеджмент*. 2002. №3).

Атамная энэргетыка ня вырашыць праблемы энэргетычнай залежнасьці Беларусі ад Расеі, бо ў Беларусі прыродны ўран не здабываецца. Запасы таннага ўрану для цеплавых рэактараў параўнальныя па памерах з запасамі нафты. Дэфіцыт урану назіраецца ўжо цяпер, пра што сьведчыць нядаўняе павышэньне ў тры разы цэнаў на прыродны ўран.

Здабываемы ў Расеі ўран складае толькі 20 % ад усяго спажываемага там урану. Розьніца пакрываецца за кошт савецкіх запасаў, якія ўжо блізкія да вычарпаньня.

Згодна са сцэнаром 2010 году новых стратэгій Міжнароднага энэргетычнага агентства (МЭА), доля электраэнэргіі, выробляемай на АЭС, ва ўсім сьвеце зьніжаецца. У 1990 годзе яна складала 17% , у 2008 – 13,5%, а па прагнозу ў 2015 складзе 12,8 адсоткаў і далей, як сьведчаць апошнія падзеі, будзе паступова зьніжацца.

У ліку аргумэнтаў на карысьць АЭС А. Лукашэнка прывёў і “скарачэньне на 10 млн. тон выкідаў парніковых газаў”, якія, нібыта, ён зможа прадаць (ня зможа, бо Беларусь ня мае дазволу на гандаль квотамі).

Акрамя таго, Міжнароднае агентства па атамнай энэргіі (IAEA) прызнае, што хуткае пашырэньне выкарыстаньня атамнай энэргіі ў мэтах абмежаваньня ўзьдзеяньня на клімат ёсьць немагчымым. Празь некалькі дзесяцігодзьдзяў атамная энэргетыка апынецца без сыравіны. Таму рашэньне кліматычных праблемаў варта шукаць у выкарыстаньні ўзнаўляемых крыніцаў энэргіі ў спалучэньні з эфэктыўнымі і энэргазьберагаючымі тэхналёгіямі.

Па сцэнару новых стратэгій МЭА, доля ўзнаўляемых крыніцаў энэргіі ў сьвеце, з улікам гідраэнэргетыкі, у 2008 годзе складала 18%, а ў 2035 годзе будзе складаць 33%. Пры гэтым доля электраэнэргіі, выробляемай з біямасы і адходаў павялічыцца ў 4 разы, а доля ветраэнэргетыкі – у 8 разоў.

У Беларусі ёсьць значна таньнейшыя, чым АЭС, а галоўнае, хуткія спосабы атрыманьня і эканоміі энэргіі. У першую чаргу – гэта ўтылізацыя біямасы ў сельскай і лясной гаспадарках, ветраэнэргетыка. Да таго ж разгрупаванасьць узнаўляемых крыніц энэргіі скарачае рызыку выпадковых ці наўмысных збояў у электрасетках.

Абагульняючы ўсе “перавагі” прынятага ім рашэньня, А. Лукашэнка заявіў, што абраны праект АЭС адпавядае “самым высокім патрабаваньням бясьпекі”.

Ці ж сапраўды гэта так? Ці здольная Расея зь яе тэхналягічным узроўнем забясьпечыць такія высокія патрабаваньні? Гэта галоўнае пытаньне, якое патрабуе грунтоўнага аналізу.

У сучасным сьвеце тэхніка-эканамічнае разьвіцьцё адбываецца шляхам зьмяненьня базавых энэргетычных працэсаў, дзякуючы якім мяняецца ўся арганізацыйная структура вытворчасьці. Для ацэнкі пасьпяховасьці сучаснай эканомікі патрабуецца асобны інтэгруючы паказьнік. Ягоную ролю выконвае сёньня такое паняцьце, як “тэхналягічны ўклад”.

Тэхналягічны ўклад – гэта сукупнасьць устойлівых вытворчых цыкляў, якія маюць базавы энэргетычны працэс. Ядро тэхналягічнага ўкладу звычайна складаюць галіны вытворчасьці з дамінуючым базавым відам энергіі.

Так, першы тэхналягічны ўклад (пачатак 19 ст.) заснаваны на выкарыстаньні вадзянога рухавіка.

Другі тэхналягічны ўклад (1830 – 1890 г.г.) характарызуецца паскораным разьвіцьцём транспарту і іншых галінаў на аснове паравога рухавіка.

Базавым энэргетычным працэсам трэцяга тэхналягічнага ўкладу (канец 19 – пачатак 20 ст. ст.) стала вытворчасьць электраэнэргіі, а галоўным энэрганосьбітам – вугаль.




***Будаўніцтва АЭС пачалося ў адным з экалягічна найчысьцейшых куткоў Беларусі, каля Астраўца ў Гродзенскай вобласьці.***

Чацьверты тэхналягічны ўклад (1930 – 1990 г.г.) заснаваны на далейшым разьвіцьці энэргетыкі з выкарыстаньнем рухавіка ўнутранага зграраньня. Галоўным энэрганосьбітам сталі нафта і нафтапрадукты, а таксама газ. Узьніклі рэактыўная авіяцыя і касьмічнае машынабудаваньне. Зьявілася атамная энэргетыка.

Пяты тэхналягічны ўклад (1985 – 2035 г.г.) абапіраецца на дасягненьні ў галіне мікраэлектронікі, інфарматыкі, біятэхналёгіі, геннай інжынэрыі, новых відаў энэргіі, матэрыялаў, асваеньня касмічнай прасторы, спадарожнікавай сувязі і г. д.

Адбываецца пераход ад разрозьненых фірмаў да буйных кампаніяў, злучаных электроннаю сеткаю на аснове Інтэрнэту, ажыцьцяўляецца цеснае ўзаемадзеяньне ў галіне тэхналёгій, плянаваньня інавацый.

Асноўным энэрганосьбітам у тэхналагічных працэсах пятага ўкладу ёсьць найбольш чыстая крыніца – прыродны газ.

Шосты тэхналягічны ўклад будзе характарызавацца разьвіцьцём робататэхнікі, нанатэхналёгіяў, сыстэмы штучнага інтэлекту, глябальных інфармацыйных сетак, інтэграваных высокахуткасных транспартных сыстэмаў, нетрадыцыйнай энэргетыкі, экатэхнікі і экатэхналёгіяў, новых тэхналёгіяў лячэньня хваробаў чалавека і навакольнага асяродзьдзя. Спэцыялісты лічаць, што росквіт шостага тэхналягічнага ўкладу прыпадзе на 2040-я гады.

Дык якому ж тэхналягічнаму ўкладу адпавядае вытворчасьць Расеі ў параўнаньні з больш разьвітымі краінамі? Вось як гэта ацэньвае генэральны дырэктар Інстытута авіяцыйных матэрыялаў, акадэмік Расейскай акадэміі навук Яўген Каблоў: “У ЗША, напрыклад, доля вытворчых сілаў пятага тэхналягічнага ўкладу, складае 60%, чацьвёртага – 20%. І каля 5% ужо прыпадае на шосты тэхналягічны ўклад. У Расеі пра шосты тэхналягічны ўклад гаварыць заўчасна. Тут доля тэхналёгій пятага ўкладу складае, прыкладна, 10%, дый тое толькі ў найбольш разьвітых галінах: у ваенна-прамысловым комплексе і ў авіякасьмічнай прамысловасьці. Больш за 50% тэхналёгіяў прыходзіцца на чацьвёрты тэхналягічны ўклад, а амаль трэць – дык зусім на трэці” (*Наука и жизнь* № 4, 2010 год). Гэтыя лічбы, прыведзеныя расейскім навукоўцам, сьведчаць пра тое, што тэхналягічная адсталасьць Расеі ад разьвітых краінаў вымяраецца прыкладна адным тэхналягічным укладам (ня меней 50 гадоў).

Варта заўважыць, што АЭС гэта ня толькі ядзерны рэактар. Найперш, гэта вельмі складаная сыстэма кіраваньня ўсімі тэхналягічнымі працэсамі, якія ажыцьцяўляюцца на АЭС. Менавіта гэтая сыстэма павінна грунтавацца на самых высокіх (пятым і шостым) тэхналягічных укладах, каб гарантаваць надзейны ўзровень бясьпекі. Відавочна, што такая задача для Расеі зь яе тэхналягічным узроўнем – непасільная, якія б аптымістычныя заявы яна не рабіла.

Нарэшце, яшчэ адна вельмі важная праблема. На кожнай АЭС у выніку рашчапленьня ядра ўранавыя стрыжні ператвараюцца ў высокарадыяактыўныя адкіды. Яны ўяўляюць вялікую небясьпеку для жыцьця людзей і таму на працягу многіх соцень гадоў павінны захоўвацца ў магільніках, надзейна абароненых ад людзей, жывёл і расьлін.

Атамныя станцыі эксплюатуюцца ўжо 50 гадоў, але надзейнага спосабу захаваньня радыяактыўных адкідаў да цяперашняга часу ніхто не можа прапанаваць.

Вучоныя ЗША лічаць, што 104 атамныя электрастанцыі разам з радыяактыўнымі адкідамі ўяўляюць вялікую пагрозу іхняй краіне. Калі б 11 верасьня 2001 году, мяркуюць яны, адзін з тых самалётаў, што ўрэзаліся ў Сусьветны гандлёвы цэнтар, замест яго пратараніў АЭС Індыян Пойнт, што знаходзіцца крыху на поўнач ад Нью-Ёрку, чалавечыя і эканамічныя страты былі б непамерна большымі.

Гэты артыкул я пішу не для рэжыму, які абсалютова абыякавы да нацыянальных інтарэсаў беларускага народу і сьвядома праштурхоўвае рызыкоўны праект будаўніцтва АЭС у Беларусі. Рэжым і сам добра ведае пра ўсё тое, што тут напісана. Я пішу гэты артыкул у надзеі на тое, што можа, нарэшце, нашыя людзі ачнуцца, расплюшчаць вочы, ўстануць з каленяў ды пачнуць бараніць сваю годнасьць і будучыню сваіх дзяцей.

***Мікалай КРЫЖАНОЎСКІ,***
*дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12 скліканьня*
*Лістапад 2011 г.*

# “Закалоць кабанчыка”

Утрэцяй дэкадзе сьнежня 2011 г. па ўсёй Беларусі пачалася хваля аблаваў. Не, не ўначы, не на “чорных варанках”, бяз грукату каваных ботаў малойцаў з НКВД. Хваля ідзе ўдзень, павольна і ня ўсе нават пачулі яе хлюпаньне. На аблавы выйшлі ціхія, далікатныя людзі – супрацоўнікі падатковай інспэкцыі рэжыму. Яны нікому не грубяць, нікога не чапляюць (пакуль што). Інспэктары ўважліва аглядаюць жыльлёвыя будынкі грамадзянаў і тэхніку, якая стаіць каля гэтых будынкаў. Падатковая ціхамірна шукае грамадзянаў, якія “не расплаціліся” з рэжымам.

Пра магчымасьць гэтых драматычных падзеяў чуткі папаўзьлі зь сярэдзіны сьнежня. Зь нетраў падатковай інспэкцыі ў грамадзтва прасачыліся зьвесткі, што толькі за студзень-верасень 2011 г. грамадзяне РБ закупілі замежных аўтамабіляў у тры разы больш, чым за кожны з папярэдніх гадоў. Падатковая нагадала таксама, што “яна ведае: многія ў краіне атрымліваюць заробкі ў канвэртах” і “зь імі трэба разабрацца”. Вось і пачалася падрыхтоўчая стадыя да гэтага “разбору”. Падатковая праз сваіх начальнікаў ужо папярэдзіла грамадзтва, што сумы, выдаткаваныя на пакупкі звыш рэальных даходаў грамадзянаў, будуць абкладзены падаткам у 12%.

Выказваем упэўненасьць, што рэжымных бонзаў з “вэртыкалі” і гэбэ гэтая аблава не закране. Па той простай прычыне, што яны самыя гэтую аблаву і арганізоўваюць. Дастанецца ўсім іншым зь ліку тых грамадзянаў, якія доўга думалі і казалі, што “эканоміка не залежыць ад палітыкі”, і лічылі сябе суцэльна ляяльнымі падданымі сыстэмы лукашызма. Яны сапраўды атрымлівалі большую частку сваіх даходаў у канвэртах, каб не дзяліцца з “абрыдлым калхозьнікам”. Такі сфармаваўся кур’ёзны від сацыяльных паводзінаў: не любіць рэжым, абзываць яго, не плаціць яму чынш, але ў цэлым быць яму ляяльным – “не соваться в політіку”.

Пасьля сфальшаванага выбарчага фарсу сьнежня 2010 году шэраг разумных і практычных людзей зразумелі, што пайшоў абвал і вырашылі выгадна ўкласьці свае “канвэртныя” грошы. Яны дабудавалі свае вілы і прыкупілі за мяжою аўтамабілі, прадчуваючы набліжэньне эканамічных цяжкасьцяў. Яны толькі недаацанілі рэжым згаданага “калхозьніка”, які вёў свой па-ленінску дакладны “учёт і контроль”. У рэжыма цяпер узьніклі цяжкасьці з пабудоваю новых гіганцкіх лядовых палацаў і дэльфінарыяў. З рабочых і сялянаў і так дзяруць тры скуры, значыць, засталіся “нэпманы”. Настала чарга тых, каму рэжым на працягу шэрагу гадоў даваў нейкую магчымасьць разьвіцьця ўласнага камфорту. У крымінальных колах гэтая трансакцыя называецца вельмі макабрычна: “адкарміць і закалоць кабанчыка”.

Патрыёты даўно папярэджвалі гэтых практычных і рэалістычных людзей, што дарога прыстасаванства да антычалавечай і антынацыянальнай дыктатуры вядзе ў яму. Але практычныя ад беларускамоўных адмахваліся: “Вы нас уже двадцаць лет пугаете. I где он, ваш этот крізіс?” Адмахваліся і рабілі па-свойму, без аглядкі да лёс Бацькаўшчыны, роднай культуры і мовы.

Йдзецца сапраўды не пра нейкіх злыдняў ці ненасытных мафіёзаў. Сярод чарговых ахвяраў падатковых аблаваў ёсьць шмат людзей, якія на сёлетнія “фальксвагены” і “мэрсэдэсы” выдаткавалі свае апошнія абмежаваныя рэзэрвы – не давяраючы банкам, яны зрабілі (як ім здавалася) практычны ўклад. Уклад яны зрабілі, але аддаваць кесаравыя 12% ім цяпер няма чым. На гэта ў рэжыму ёсьць правераныя сродкі. За падатковымі аблавамі сьледам ідуць падатковыя канфіскацыі. Цікава, што начальства падатковай інспэкцыі ўжо заявіла: “Ня трэба турбавацца і хадзіць да нас у офісы афармляць паперы. Нашы супрацоўнікі самыя зьявяцца ў вашых дамах і офісах”.

Пакуль разгортваецца падрыхтоўчая фаза сучаснай формы раскулачваньня, многія з практычных людзей яшчэ не зразумелі, што адбываецца. Ціхая плынь яшчэ не замачыла ім ногі. Яны спадзяюцца прайсьці празь яе на дыбачках ад парогу дома да свайго аўтамабіля. Яны яшчэ сьмяюцца, калі гучыць словазлучэньне “нацыянальная салідарнасьць”. Ім усё яшчэ камфортна, ім ня верыцца (“ня верыцца” – любімая формула мільёнаў абрабаваных савецкіх людзей 1990-х гадоў).

А тым часам працэс разбурэньня нашай краіны набірае сілу.

**_Юрка МАРОЗАЎ_**

*Студзень 2012 г.*

**Шаноўнае спадарства!**

Нагадваем, што працягваецца збор твораў для літаратурнга альманаху “**БЕЛАРУС**” за 2012 год, друк якога заплянаваны на жнівень месяц сёлета.

Умовы застаюцца такімі-ж як у папярэднія гады: зьмясьціць свае творы ў выданьні могуць аўтары, хто піша па-беларуску ў самых розных літаратурных жанрах. Адзіная ўмова – аўтары сёньня павінны жыць па-за межамі Беларусі.

Творы найлепш дасылаць у рэдакцыю электроннаю поштаю на адрас: ***zamova@e-krama.com.*** У выключных выпадках, калі аўтары ня маюць доступу да сусьветнага сеціва, творы можна даслаць поштаю запісанымі на CD ці DVD альбо надрукаванымі на паперы на адрас рэдакцыі:

***BIELARUS***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735 USA***




Апошні тэрмін для дасылкі твораў **31 траўня 2012 году**.

Падрабязьнейшую інфармацыю пра ўмовы друку альманаху можна даведацца на старонцы **www.e-krama.com.**

Папярэдняя замова разам з дасылкаю ў межах ЗША каштуе **$10,** Вялікабрытанію і Канаду - **$15,** усе іншыя краіны - **$18.**

Жадаючыя могуць замовіць нумары за папярэднія гады. Зрабіць гэта можна, як па пошце, так і наведаўшы старонку **www.e-krama.com** і зрабіўшы аплату крэдытнаю карткаю.

# Беларуская мэмуарная бібліятэка

У 2010 годзе выдавецтвам "Лімарыус" у Менску была запачаткаваная новая кніжная сэрыя "Беларуская мэмуарная бібліятэка", мэтаю якой ёсьць выданьне ўспамінаў беларусаў і пра Беларусь. Відавочна, што мэмуарная спадчына суайчыньнікаў публікавалася і раней, як асобнымі кнігамі, гэтак і на старонках разнастайных пэрыёдыкаў, аднак сыстэматычным пошукам і публікацыяй такога кшталту нарацыйных крыніцаў да нядаўняга часу ніхто не займаўся. Менавіта таму новая выдавецкая ініцыятыва, унікальная для Беларусі, вартая вітаньня і падтрымкі.

Адкрылі сэрыю "Ўспаміны пасла" Аляксандра Стагановіча (1890–-1988), палітычнага дзеяча ў міжваеннай Заходняй Беларусі ды на эміграцыі. Мэмуары, прысьвечаныя пераважна падзеям 1920–30-х гадоў, сталі своеасаблівым адкрыцьцём для навукоўцаў ужо пасьля іх часапіснага выданьня на старонках "Запісаў БІНіМ" у 2009 годзе. У кніжным варыянце добра адкамэнтаваныя гісторыкам Аляксандрам Пашкевічам ўспаміны былі дапоўненыя артыкуламі, прысьвечанымі падзеям палітычнага жыцьця Заходняй Беларусі, а таксама праілюстраваныя фатаздымкамі зь сямейнага архіву Стагановічаў.




Першая кніга сэрыі "Беларуская мэмуарная бібліятэка" з сур'ёзным навуковым апаратам (прадмовай, камэнтарамі, іменным паказьнікам) задала высокі ўзровень якасьці выданьня ўспамінаў, які быў падтрыманы і другой кнігай – "Успамінамі (1805–1831)" Яўстафія Янушкевіча (1805–1874). Гэтыя мэмуары, хоць і напісаныя таксама эмігрантам, рэпрэзэнтуюць зусім іншую эпоху і іншую краіну – Беларусь пачатку XIX стагодзьдзя. У адрозьненьне ад успамінаў Аляксандра Стагановіча, тэкст Яўстафія Янушкевіча раней ніколі не публікаваўся. Ён захоўваўся як польскамоўны рукапіс ў архіўных фондах Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве і быў знойдзены і падрыхтаваны да друку гісторыкам Вольгай Гарбачовай.




Мэмуары Яўстафія Янушкевіча, таксама ня надта вядомага ў Беларусі грамадзкага дзеяча, закранаюць гады ягонага навучаньня ў Віленскім унівэрсытэце, знаёмства з Адамам Міцкевічам, прафэсарам Іахімам Лялевелем, а таксама ўдзел у паўстаньні 1830–1831 гг. Гэта цікавая гістарычная крыніца, якая фіксуе асаблівасьці інтэлектуальнага жыцьця на беларускіх землях пачатку XIX ст.

Варта адзначыць, што тэкст "Успамінаў" Яўстафія Янушкевіча пададзены як у беларускім арыгінале, гэтак і ў перакладзе. Ён таксама папярэджаны прадмоваю, грунтоўна пракамэнтаваны ды суправаджаецца іменным і геаграфічным паказьнікамі, што робіць выданьне зручным для карыстаньня як спэцыялістамі, гэтак і простымі аматарамі беларусікі.

"Беларуская мэмуарнае бібліятэка", такім чынам, спрыяе ўключэньню ў беларускую інтэлектуальную, навуковую, гістарычную прастору раней малавядомых тэкстаў. І гэтая праца працягваецца надалей. У падрыхтоўцы да друку знаходзіцца цэлы шэраг новых мэмуараў. Так, у найбліжэйшы час маюць выйсьці ўнікальныя ўспаміны жанчыны-эмігранткі Марыі Стагановіч (1898–1995), жонкі аўтара першых успамінаў сэрыі. Гэтыя тэкст, бадай што, ня мае аналягаў у беларускай мэмуарнай літаратуры. Прысьвечаныя падзеям самага пачатку XX ст. (дзяцінству і юнацтву аўтаркі), успаміны дакладна адлюстроўваюць асаблівасьці штодзённага жыцьця беларускай вёскі на Наваградчыне, а таксама часы Першай сусьветнай вайны і бежанства ў Смаленшчыну. Просты аповед Марыі Стагановіч да дачкі Тамары "як раней было" ўтрымлівае надзвычай каштоўныя этнаграфічныя і гістарычныя зьвесткі. Дадаткам да ўласна жыцьцёвых успамінаў у выданьні будуць зьмешчаныя згадкі пра абрады, песьні, стравы, лекавыя зёлкі. Усё гэта, сабранае разам, уяўляе сабою непаўторную па сваёй значнасьці і зьместу крыніцу па беларускай гісторыі і штодзённасьці.

Працягам сэрыі будуць успаміны яшчэ аднаго эмігранта Васіля Стомы "Маё мястэчка". Гэты тэкст раней спазнаў часапіснае выданьне ўжо двойчы: першы раз у амэрыканскім часапісе "Беларускі сьвет" ў 1980-х, другі – у мэтрапольным "Полымі" пры канцы 1990-х (на падставе аўтарскага машынапісу). Аднак новае, гэтым разам кніжнае выданьне, будзе адрозьнівацца ад папярэдніх, увабраўшы ў сябе абедзьве папярэднія рэдакцыі і дапоўненае сур'ёзнымі камэнтарамі. "Маё мястэчка" – мастацкія ўспаміны пра радзіму аўтара – Лужкі. Храналягічна яны ахопліваюць 1920–30-я гады – дзяцінства і юнацтва Васіля Стомы. З гумарам, дасьціпна аўтар падае на старонках свайго твору вобразы жыхароў роднага мястэчка, апісвае вуліцы і ўстановы, згадвае цікавыя здарэньні мясцовага жыцьця. У выніку, непаўторны сьвет міжваеннага заходнебеларускага мястэчка высьвечваецца новымі яскравымі фарбамі, становіцца

**Заканчэньне на 13-й бачыне**

# Вальжына МОРТ: *Аніякі час ад натхненьня ня вольны...*

*– Шаноўная спадарыня Вальжына, віншуем з новым зборнікам. Ці можна цяпер казаць, што з сучасных беларускіх пісьменьнікаў у Амэрыцы Вы самая вядомая?*

– Дзякуй за віншаваньні. Вядомасьць паэта – рэч вельмі адносная. Будзе больш трапным сказаць, што я адзіная з сучасных і несучасных беларускіх паэтаў, хто мае амэрыканскага выдаўца і рэгульна друкуецца па-ангельску. Але ж я жыву і працую ў ЗША, таму нічога дзіўнага ў гэтым няма.



*– Вы атрымалі шэраг прэстыжовых узнагародаў у ЗША і Эўропе. Гэта неяк канкрэтна дапамагае кар'еры пісьменьніка?*

– Так, вельмі канкрэтна дапамагае, напрыклад, пры ўладкаваньні на ўнівэрсытэцкую працу (кожны паважаючы сябе амэрыканскі ўнівэрсытэт мае некалькі writers-in-residence, а то і наогул MFA in Creative Writing, дзе выкладаюць толькі пісьменьнікі). Узнагарода забясьпечвае ўвагу літаратурных часапісаў, рэдактараў, арганізатараў фэстываляў і г. д., і галоўнае, увагу іншых пісьменьнікаў, што часта вядзе да важных літаратурных знаёмстваў і сяброўстваў.

*– Кніга "Collected Body" выдадзеная тым самым выдавецтвам, што і папярэдняя, беларуска-ангельская. Наколькі проста там надрукавацца?*

– "Copper Canyon Press" – гэта адно з самых паважаных незалежных паэтычных выдавецтваў у ЗША. Сярод іх аўтараў Нобэлеўскія ляўрэаты, паэтыляўрэаты ЗША, атрымальнікі самых вялікіх нацыянальных кніжных прэмій. Надрукавацца ў іх няпроста. Мой першы кантракт з "Copper Canyon Press" (на "Фабрыку сьлёз") кардынальна зьмяніў маё жыцьцё. "Фабрыка" атрымала цудоўныя рэцэнзіі і вельмі добра прадаецца, таму я была ўпэўненая, што выдавецтва працягне са мною працаваць. Мой рэдактар мяне шмат навучыў і вучыць, і я ня думаю, што нават у няхуткім часе мне захочацца мяняць выдавецтва.

*– Дазвольце парахаваць чужыя грошы. Ганарар ад зборніку моцна дапамог Вашаму дабрабыту?*

– Ха-ха-ха, не дазволю :) Скажу адно: чэкі ад майго выдавецтва і майго агента заўсёды прыходзяць у самы патрэбны час.

*– У вольны ад натхненьня час Вы выкладаеце. Падзяліцеся, калі ласка, пра што менавіта расказваеце студэнтам? І як гэта – вырабіцца на выкладчыка? Трэба штосьці адмысловае скончыць? Ці дастаткова проста быць пісьменьнікам?*

– Ой, аніякі час ад натхненьня ня вольны... Выкладаць трэба дзеля месячнага заробку, мэдыцынскай страхоўкі і доўгіх аплачваемых канікулаў. Каб выкладаць у магістратуры ў праграме па мастацкаму пісьменству, патрэбна быць пісьменьнікам, які рэгулярна друкуецца і выступае, і мае ступень магістра альбо доктара. Я выкладаю паэтычны мастэр-кляс, і яшчэ адзін курс па мастацкаму пісьменству. У абодвух курсах я сама сабе кіраўнік, і сама пляную, што выкладаць і як. Мае студэнты працуюць над рукапісамі іх першых кніжак, а я ім у гэтым дапамагаю, прымушаючы іх чытаць і рэдагаваць больш, чым яны звычайна жадаюць.




*– Першы зборнік – па-беларуску. Другі – дзьвюмоўны. Трэці – цалкам па-ангельску. Ці пішацца яшчэ пабеларуску?*

– Зараз я паціху перакладаю "Collected Body" на беларускую мову.

*– У адным з інтэрвію Вы казалі, што былі захапіліся перакладамі з польскай мовы. Не было думкі стацца гэткім агентам для нашых паэтаў і перакладаць іхныя творы для амэрыканцаў? Калі у Нью-Ёрку выступаў Андрэй Дынько, ён скардзіўся на складанасьць доступу да колаў амэрыканскіх выдаўцоў, перакладчыкаў, літагентаў.*

– Я дагэтуль з захапленьнем і задавальненьнем перакладаю. Мае пераклады зь беларускай, украінскай і расейскай моваў уключаныя ў вельмі вядомую анталёгію новых эўрапейскіх паэтаў ("New European Poets Anthology"), што выйшла ў "Graywolf Press" пару гадоў таму. Там ёсьць вершы Міхася Баярына, Андрэя Хадановіча, Віктара Жыбуля і Віктара Шалкевіча. Ці, напрыклад, увосені "Virginia Quarterly Review" надрукаваў падборку маладых паэтаў, народжаных у СССР, пад рэдакцыяй Ільлі Камінскага, Кэці Фэррыс і мяне...

Быць агентам я ня бачу магчымым – гэта як-ніяк full-time job, а ў мяне ўжо адна праца ёсьць, якая ва ўсю замінае пісаць. Калі я бачу нешта цікавае, я заўсёды перакладаю і адсылаю ў часа-



Вальжына Морт і Эліс Ярд (Ямайка) падчас паэтычных чытаньняў у Вудбруку (Трынідад і Табага) у студзені 2010 г.

пісы. Калі просяць перакласьці, перакладаю. Аднак, што датычыцца сучаснай беларускай літаратуры, то магу толькі паскардзіцца на складанасьць знаходжаньня вершаў, вартых перакладу.

– *Ці ёсьць магчымасьць сачыць за беларускай літаратурай? Што параіце не прамінуць?*

– Ня так пільна, як хацелася б. Як і ў любой іншай краіне, у нашых літаратурных часапісах друкуецца шмат фігні, і шукаць у гэтай фігні адзін добры верш няма часу. Я прыслухоўваюся да рэкамэндацый ад знаёмых і хаджу па кніжных крамах, калі бываю ў Менску. З сучасных беларускіх аўтараў мне найбольш цікавы Альгерд Бахарэвіч.

– *Вашае кола тут, напэўна, нямала складаецца з літаратарамі, што вымушае да знаёмства зь іхнімі кнігамі. Беларускія пісьменьнікі насамрэч ня маюць ніякіх шанцаў?*

– Лепш, калі атрымліваецца наадварот: ад знаёмства з кнігай пераходжу да сяброўства з аўтарам :)

Што датычыцца шанцаў, то ў добрай кнігі заўсёды ёсьць усе шанцы на добрага выдаўца і добрых чытачоў.

– *Палітыкі Вы цураецеся? Ці неяк камэнтуеце пад час розных інтэрвію сытуацыю ў Беларусі?*

– Не камэнтую, і, дзякуй Богу, ужо доўгі час мяне пра палітыку не пытаюць.

– *У ЗША Вы ад 2005 году. За гэты час адведвалі Беларусь? Як яна зьмяняецца, як зьмяняюцца людзі?*

– Так, бываю дома кожны год. Аналізаваць людзей і краіну ня буду, бо тыдню раз на год ў Менску недастаткова, каб рабіць нейкія высновы пра зьмены. Адчуваю, як зьмянілася я, як стала да пэўных рэчаў больш цярплівая, а да іншых – зусім згубіла цярпеньне.

– *Напэўна, Вы ведаеце пра беларускую дыяспару ў Амэрыцы. Існуюць арганізацыі, выдаюцца пэрыёдыкі (у тым ліку “Запісы БІНІМ”, дзе некалькі гадоў таму Вы ласкава дазволілі надрукаваць нізку сваіх вершаў). Хацелася б бачыць Вас на нашых імпрэзах (неўзабаве будзем адзначаць 25 Сакавіка) ці зладзіць адмысловую сустрэчу з Вамі. Думаеце, гэта было б рэальным?*

– Так, канечне, чаму не. З задавальненьнем. Што датычыцца сьвяткаваньняў, то я не вялікі аматар нацыянальных сьвятаў, і нічога такога не адзначаю. Я люблю вандраваць па сьвеце, але калі я дома, то мяне качаргою з кватэры не выганіш – такі я кашмарны інтравэрт і дамасед-уфатэлізкніжкайсед. Ну, а ў Нью-Ёрку мяне ня выгнаць з маіх любімых і часта неславянскіх рэстарацыяў (Вы былі ў “Мамафуку”?!)... таму мае шляхі зь беларускай дыяспарай часта разьмінаюцца. Але, дасьць Бог, вясною пабачымся.

***Інтэрвію зрабіў Лявон ЮРЭВІЧ***

# Беларуская мэмуарная бібліятэка

***Заканчэньне з 3-й бачыны***

блізкім і прыцягальным для чытача.

Што праўда, “Беларуская мэмуарная бібліятэка” не плянуе засяроджвацца на выданьні менавіта і выключна эміграцыйных успамінаў. Ужо ідзе праца па падрыхтоўцы і іншых тэкстаў розных часоў і характараў. Так, напрыклад, у плянах выдаўцоў кніжная публікацыя ўспамінаў аўтараў XIX стагодзьдзя: Восіпа Пшацлаўскага (1799–1879), нараджэнца Слонімскага павету, аднакурсьніка Адама Міцкевіча, рэдактара газэты “Тыгоднік Пецярбурскі”; гісторыка Мікалая Маліноўскага (1799–1865), сябры Таварыства філяматаў, паўстанца Зыгмунта Мінейкі (1840–1925), а таксама такога неадназначнага для беларускай гісторыі дзеяча як генэрал-губэрнатара Міхаіла Мураўёва-Вешальніка (1796–1866). Будуць выдадзеныя і ўспаміны аўтараў з XX стагодзьдзя: прыкладам, мастака Яўгена Ціхановіча (1911–2005), або поўны (нецэнзураваны) варыянт успамінаў Паўліны Мядзёлкі (1893–1974). Усе гэтыя тэксты ўжо знаходзяцца ў працэсе падрыхтоўкі да публікацыі.

Беларускія мэмуары, цікавыя і разнастайныя, эміграцыйныя і мэтрапольныя, вядомыя і невядомыя, ёсьць каштоўнымі крыніцамі па беларускай гісторыі, адлюстроўваюць яе штодзённае, чалавечае вымярэньне. Выдадзеныя ў спэцыяльнай кніжнай сэрыі, падрыхтаваныя спэцыялістамі-прафэсіяналамі, яны знойдуць свайго чытача і стануцца важнай часткай беларускай інтэлектуальнай прасторы. Таму заклікаем усіх, хто мае цікавыя мэмуарныя тэксты, або хто жадае падтрымаць новую кніжную сэрыю, зьвяртацца да яе прадстаўніка ў ЗША Лявона Юрэвіча.

***Натальля ГАРДЗІЕНКА***

# “Шматгалосы эпісталярыум” Лявона Юрэвіча

Сытуацыя эміграцыі ў XX ст., калі не было яшчэ сучасных сродкаў сувязі, спрыяла актыўным лістоўным кантактам паміж суайчыньнікамі ў розных краінах. Менавіта таму сёньня эпісталяры зьяўляюцца найбольш колькаснымі эміграцыйнымі тэкстамі. Яны ж уяўляюць сабою надзвычай цікавыя крыніцы інфармацыі пра жыцьцё ў замежжы. Прысьвечаныя розным аспэктам: гісторыі, літаратуры, палітыкі, лісты эмігрантаў ёсьць і каштоўнымі сьведчаньнямі міжасабовых дачыненьняў, асаблівасьцяў штодзённага жыцьця, дадаюць невядомыя факты да біяграфіяў іх аўтараў і карэспандэнтаў. Аднак гэтыя цікавыя крыніцы пакуль што застаюцца ня надта добра прадстаўленыя ў айчынным эміграцыязнаўстве. Бракуе і якасных публікацыяў самых тэкстаў, і сур’ёзнага вывучэньня іх як фэномэна, як гістарычнай крыніцы.

Кніга Лявона Юрэвіча “Шматгалосы эпісталярыум”, выдадзеная ў сэрыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны” ў 2012 г., як раз і ёсьць спробаю, з аднаго боку, тэарэтычнага асэнсаваньня эпісталярнай спадчыны беларускіх эмігрантаў, а зь іншага, уяўляе сабою ці ня самую шырокую паводле геаграфіі і колькасьці карэспандэнтаў, публікацыю эміграцыйнага ліставаньня.

Выданьне складаецца як з новых тэкстаў, гэтак і з раней публікаваных на старонках пэрыёдыкаў “Arche” ды “Запісы БІНіМ” матэрыялаў. Аднак усе яны аб’яднаныя агульнай тэмай – эміграцыйнай эпісталярнай спадчынай – і сьведчаць пра яе разнастайнасьць і гістарычную каштоўнасьць. Пераважная большасьць апублікаваных у кнізе лістоў, або праз асобы аўтараў, або праз тэматыку, мае дачыненьне да літаратуры, што праўда, не толькі эміграцыйнай. Лісты Юркі Віцьбіча, Кастуся Акулы, Уладзімера Клішэвіча, Натальлі Арсеньневай і іншых, шмат дадаюць і да нашых ведаў пра літаратурны працэс на эміграцыі, і да біяграфіяў самых аўтараў.

Ці не найбольшы матэрыял у “Шматгалосым эпісталярыі” зьвязаны з творчасьцю Кастуся Акулы. Ягоны раман “Змагарныя дарогі” ды трылёгія “Гараватка” выклікалі шырокі рэзананс на эміграцыі, які выявіўся менавіта ў ліставаньні. Што праўда, кантакты з дасьведчанымі асобамі канадыйскі беларус пачаў яшчэ да напісаньня раману, і дасланыя матэрыялы актыўна потым скарыстоўваў. Пра гэта сьведчаць лісты Франца Кушаля, Віктара Сянкевіча і іншых. Цікавая была і рэакцыя беларускага эміграцыйнага грамадзтва на пададзеную ў “Змагарных дарогах” вэрсію падзеяў зь беларускай ваеннай гісторыі. Гэта былі падзеі, удзельнікаў якіх на Захадзе апынулася даволі шмат, аднак кожны, натуральна, бачыў мінулае па-свойму, што і адлюстравана ў эпісталярыях: часам злых, крытычных, часам ухвальных. У абшырным ліставаньні Кастуся Акулы можна знайсьці цікавыя зьвесткі па беларускай гісторыі часоў Другой сусьветнай вайны, прыкладам, вэрсіі пра забойства ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага ці пра захоп Саветамі Кастуся Езавітава. Зьяўляюцца тут і невядомыя раней карэспандэнты, як, прыкладам Аўген Трусаў з Францыі, зь ягонымі арыгінальнымі аўтабіягафічнымі аповедамі.




Іншы па гучаньні матэрыял складае ліставаньне пісьменьнікаў Уладзімера Клішэвіча ды Міхася Кавыля, у якім высьвятляюцца асаблівасьці ўзаемадачыненьняў першага зь іншымі літаратарамі: Масеем Сяднёвым, Янкам Золакам, Уладзімерам Дудзіцкім. Прымушае па-новаму паглядзець на жыцьцё на эміграцыі Натальлі Арсеньневай ейнае ліставаньне зь Янінай Каханоўскай. Шчырыя лісты распавядаюць пра падрабязнасьці жыцьця ў правінцыйным Рочэстары, далёкім ад цэнтраў беларускай эміграцыі, пра неабходнасьць засяродзіцца на клопаце пра ўнукаў, што рана засталіся бяз маці. Зь іх становіцца зразумелым, што не мітычная “туга па Радзіме”, а рэальныя жыцьцёвыя абставіны змусілі паэтку на пэўны час спыніць творчую дзейнасьць.

Цікавая і падборка лістоў у справе перакладу біблійных тэкстаў на эміграцыі пры канцы 1940-х гадоў. Ініцыятар стварэньня адмысловага Камітэту Вітаўт Тумаш кантактаваў у гэтай справе зь Юркам Віцьбічам, Данілам Ясько, Янам Пятроўскім, Леанідам Галяком, Баляславам Грабінскім ды іншымі.

Героямі іншых публікацыяў Лявона Юрэвіча, зьмешчаных у “Шматгалосым эпісталярыі”, сталі дзеяч Рады БНР Янка Чарапук-Змагар, беларускі актывіст у Аўстраліі Сьцяпан Шнэк, кіраўнік БАПЦ Уладыка Васіль (Тамашчык), брат Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, паэт Уладзімер Дудзіцкі і іншыя. Дзякуючы пададзеным у кнізе лістам, гэтыя асобы, іх жыцьцё на эміграцыі становяцца бліжэйшымі, зразумелымі, зямнымі, хоць і ня менш цікавымі.

Ладная частка зьмешчаных у кнізе лістоў належаць да архіваў Юркі Віьцбіча, што захоўваюцца ў БІНіМе. Гэты дзеяч стаўся адным з своеасаблівых “эпісталярных цэнтраў” беларускай эміграцыі. Ён меў сотні карэспандэнтаў у розных краінах сьвету, праз што ведаў самыя разнастайныя навіны, якімі актыўна дзяліўся зь іншымі. Акрамя таго, ён скарыстоўваў лісты і для ўспамінаў пра літаратурнае жыцьцё міжваеннай Беларусі, і для пошуку матэрыялаў для сваіх эміграцыйных публікацыяў. Менавіта таму, эпісталярныя архівы гэтага пісьменьніка ўяўляюць асаблівую цікавасьць для дасьледнікаў.

“Шматгалосы эпісталярыюм” дае добры прыклад таго, якімі цікавымі і разнастайнымі ёсьць лісты беларускіх паваенных эміграцыйных дзеячаў. Лявон Юрэвіч сваімі публікацыямі паказвае эмігрантаў рэальнымі, жывымі асобамі, з сваімі асаблівымі характарамі, памкненьнямі, спэцыфічнымі жыцьцёвымі абставінамі. Зразумела, што адною кнігаю немагчыма вычарпаць тэму эміграцыйнай эпісталярнай спадчыны, але праца нью-ёрскага архівіста сьведчыць пра неабходнасьць і вартасьць далейшага вывучэньня і выданьня гэтага віду крыніцаў. Да таго ж “Шматгалосы эпісталярыум” і можа быць своеасаблівым прыкладам таго, як трэба падыходзіць да публікаваньня і сыстэматызацыі ліставаньня.

***Натальля ГАРДЗІЕНКА***

# “Я жыву ў Беларусі”

## “Вайна супраць народа”

На апошнія Дзяды падчас шэсця, дазволенага Менскім гарвыканкамам і аблвыканкамам, супрацоўнікі КДБ здымалі людзей на відэакамэры. Падкрэсьліваю, акцыя была дазволеная! Падобным дзеяньням няма апраўданьня, у іх адсутнічае праўная лёгіка, але ёсьць рэжымныя паняцьці. Гэта яны фіксавалі свой сьпіс (каго трэба перасьледаваць у першую чаргу). Зараз КДБ-істы могуць уварвацца ў любы дом, яны ні за што не нясуць адказнасьці. Гэта законы ваеннага часу ў акупацыі. Разгром Лібіі, сьмерць Кадафі, пазыцыя Расеі, якая заганяе Лукашэнку ў кут, – гэтыя фактары выбілі рэжым з раўнавагі. Нядаўна было абвешчана, што ў Беларусі ствараецца новае тэрытарыяльная войска – 120 тысяч, якое будзе гатовым да партызанскае вайны. Старшыням аблвыканкамаў былі прысвоеныя генэральскія званьні, хоць законадаўства не прадугледжвае, каб людзі, якія знаходзяцца на пасадах старшыняў аблвыканкамаў, маглі атрымоўваць званьні, вышэйшыя за палкоўніка. Са словаў Лукашэнкі, “козьні” для Беларусі робіць “сусьветная закуліса”. Усе гэтыя дзеяньні і словы сьведчаць пра тое, што “там” (у галовах рэжыму) адбылося зьмяшаньне розуму ад страху страціць уладу. Кадафі абяцаў народу дабрабыт, сацыяльную абарону, – але адлучыў народ ад палітыкі, ад кіраваньня дзяржавай. Ён забясьпечваў матэрыяльны ўзровень (Лібія – багацейшая на рэсурсы краіна): бясплатная адукацыя, бясплатная мэдыцына, бясплатнае жыльле, 14 цэнтаў за літар бэнзіну... 42 гады так жылі. Але ўсё роўна лібійцы паўсталі. Таму што людзям патрэбна свабода, воля, магчымасьць самавыяўленьня.

## Аб моладзі ў палітыцы

– Мы (партыя КХП-БНФ, ***А.К.***) вельмі беражэм нашую моладзь, ня разі ім лезьці у тэлекамэры, да мікрафонаў. Ёсьць магчымасьць рабіць справу, сур’ёзную справу, але трэба вучыцца. Бо калі моладзь ня будзе мець адукацыі, то яна нішто. Што вы зробіце для Бацькаўшчыны, ня маючы кваліфікацыі, ведаў, вышэйшая адукацыі, пашаны да свайго народу і да самых сябе? Трэба стаць на ногі, ведаць мовы (і перш за ўсё сваю родную беларускую), умацавацца матэрыяльна і інтэлектуальна. Тады мы будзем сацыяльнай сілай. Інача́й з намі абыйдуцца, як з курдамі. Палітыка – ня справа маладых, але яны да гэтага па-свойму цягнуцца. І трэба берагчы іх, каб вырасьлі добрымі беларусамі і моцнымі людзьмі. У грамадзтве ідзе рост нацыянальнай сьвядомасьці. У гэтым працэсе рашаючае слова належыць беларускай мове. Як толькі Беларусь выпрастаецца і голасна загаворыць па-беларуску – антыбеларускі рэжым скурчыцца, як чорт ад крыжа (і, урэшце, здохне, ссохне, як плесьня на сонцы). Такія ёсьць умовы асяродзьдзя, у якіх антыбеларускі рэжым ня можа існаваць. Праз мову ляжыць шлях да нармальнага, адэкватнага думаньня і дарога да народнай свабоды. (Невыпадкова, галоўным ідэалягічным дзеяньнем антынароднага рэжыму ёсьць зьнішчэньне беларускай мовы.)



Чалавек свабодны ў душы ня стане прыніжацца і ня будзе рабом, ушануе і мову, і Бацькаўшчыну. Вось толькі адзін прыклад. Ёсьць такі гурт “Ляпіс Трубяцкі”. Ніколі ім не цікавіўся, але прагледзеўшы ў Інтэрнэце апошнія інтэрвію Міхалка, зазначыў, што гэта чалавек з розумам, воляй і характарам. Ніякай небясьпекі ён для рэжыму не ўяўляў, і раптам ягоны музычны гурт заносяць у чорны сьпіс і, фактычна, выганяюць зь Беларусі. Гэта значыць – мастака пазбавілі магчымасьці выступаць? Тут можа адбыцца пераварот ў душы. Чалавек павінен усё гэта рацыянальна асэнсаваць. Сталі складацца зусім іншыя песьні! Мастак зьвярнуўся і да роднай мовы, і да Купалы, які пісаў, што чалавек павінен шанаваць волю і годнасьць чалавечую, і “ня быць скотам”. Рэжым, які пачынае прэвэнтыўна душыць людзей, выклікае супрацьдзеяньне. І чым больш будзе душыць, тым большым будзе супрацьдзеяньне.

## Дапамагаць трэба самым сабе

– У 90-я быў вельмі моцны Народны Фронт, гэта быў авангард, але ў нас было мала часу – тры гады адносна вольнай незалежнасьці (з 25-га жніўня 1991 па ліпень 1994). Грамадзтва яшчэ не пасьпела падрыхтавацца да свабоды і асэнсаваць неабходнасьць нацыянальнай палітыкі. Не параўнаць с Прыбалтыкай, дзе за 22 гады незалежнасьці (з 1918 па 1940) вырасла цэлае пакаленьне сьвядомых людзей. Беларускі авангард (Народны Фронт) здабыў незалежнасьць, але ўладу здабыць ня здолеў, бо грамадзтва яшчэ не разумела абавязковай неабходнасьці зьмены савецкай улады. Адбылася рэстаўрацыя каляніяльнага саветызму. Пачалі нішчыць усе беларускае, зьневажаць беларускую мову, культуру і нацыянальны дух, – усё, што яднае нацыю і народ.

Калі не адрадзіць беларускую салідарнасьць, нацыянальнае яднаньне і змагарны дух народу, калі не стварыць нацыянальнай альтэрнатывы, то стыхійны сацыяльны выбух (калі б такое здарылася) можа скончыцца паразай і разбурэньнем. І няма ніякай гарантыі, што ня стане яшчэ горш. Словам, азы тэорыі – перамены трэба рыхтаваць. Дапамагаць трэба самым сабе, бо ў змаганьні за волю, незалежнасьць і свабоду абапірацца можна толькі на нацыянальна свядомы народ, які ведае, што такое ягоная зямля, свабода, культура, мова, і здольныя пайсьці за іх на сьмерць – як слуцкія паўстанцы амаль 100 гадоў таму.

## “Я жыву ў Беларусі”

У гутарцы Зянон Пазьняк распавёў аб тым, чаму за 15 гадоў так і не інтэграваўся ў амэрыканскае грамадзтва.

*– Што было самым цяжкім у прызвычаеньні да жыцьця ў ЗША? Чаго больш за ўсе не хапала? Гавораць жа, у Амерыцы ёсьць усё!*

– У Амэрыцы я знаходжуся часова (да пераменаў на Радзіме, дзеля гэтага я тут дзейнічаю і працую). Таму я не інтэграваўся ў амэрыканскае грамадзтва. Яно мне не варожае, але не сваё. Я жыву ў Беларусі.

***Заканчэньне на 15-й бачыне***

## “Я жыву ў Беларусі”

***Заканчэньне з 15-й бачыны***

*– Якія рысы амэрыканцаў, на Ваш погляд, нядрэнна было б пераняць беларусам?*

– Па праўдзе, лепш бы амэрыканцам пераняць шмат якія рысы беларусаў. Мы вельмі кемлівы, трывалы і добры народ, які трапіў у жудасную паласу гістарычнага няшчасьця. А ў амэрыканцаў варта павучыцца патрыятызму.

*– Як, на Ваш погляд, далей будуць развівацца беларуска-амэрыканскія дачыненьні?*

– Гэта залежыць ад перамены ўлады ў Беларусі. Амэрыка дабразычлівая да нас, беларусаў, краіна.

*– Ваша стаўленьне да Аляксандра Лукашэнкі зразумелае, а ці можаце Вы адзначыць штосьці станоўчае, што ён зрабіў для Беларусі? Многія зазначаюць, напрыклад, што падчас ягонага кіраваньня значна зьнізіўся ўзровень злачыннасьці.*

– Пры дыктатуры адбываецца пераразьмеркаваньне злачаннасьці. Самымі вялікімі злачынцамі робяцца дыктатары і іхнія хунты, якія абапіраюцца на сваю ўладу над грамадзтвам. Канкурэнтаў (“шчаўлікаў” і т. п.) зьнішчаюць.

*– За апошні год пакупніцкая здольнасьць беларусаў значна скарацілася. Краіна трапіла ў сьпіраль гіпэрінфляцыі. Наколькі яшчэ павінен пагоршыцца фінансавы стан людзей, каб яны выйшлі з пратэстам супраць улады?*

– Пратэсты супроць несправядлівай улады вызначаюцца імкненьнем да свабоды, а не ўзроўнем зарплаты і гіпэрінфляцыі.

***Аліса КСЯНЕВІЧ,***
***фота аўтаркі.***

### Шаноўныя падпісчыкі “Вестак і Паведамленьняў”!

Пачынаючы ад гэтага нумару бюлетэня на адраснай налепцы, што прыклееная на канвэртах, у якіх Вы будзеце атрымоўваць бюлетэнь, будзе друкавацца інфармацыя аб тым, калі й якое ахвяраваньне Вы апошні раз рабілі на выданьне “Вестак і Паведамленьняў”. Такім чынам, Вы заўсёды зможаце праверыць, калі надыходзіць час абнаўленьня падпіскі і своечасова выслаць аплату, каб не было перабоя ў дасылцы.

Нагадваем, што гадавая падпіска на наш інфармацыйны бюлетэнь каштуе **$30**.

Ніжэй падаём прыклад адраснай налепкі з інфармацыяй (справа ад імя) аб падпісцы. На налепцы відаць, што апошняе ахвяраваньне ў памеры $30 было зробленае ў лютым 2012 г. Гэта значыць, падпіску трэба абнавіць да канца лютага 2013 г.

**Mr. Janka Javar** **$30-2/12**
**123 Avenue A, apt. 5**
**Brooklyn, NY 11234**

### Уплаты ў Згуртаваньне
Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:

| | |
|---|---|
| В. Бортнік | 50 |
| С. Груцык | 50 |
| Ю. Дазорча | 50 |
| М. Дзеканчук | 50 |
| Д. Дубараў | 50 |
| І. Знахарчук | 50 |
| Н. Каланей | 50 |
| Ю. Маісеенка | 50 |
| Д. Маслаў | 50 |
| І. Машкоўская | 50 |
| І. Міуская | 50 |
| І. Руткоўскі | 50 |
| В. Самусёва | 50 |
| Ш. Саркісян | 50 |
| Я. Сьмірноў | 50 |
| А. Шастапалава | 50 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**

*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі выпісвайце на імя скарбніцы**
*Valentina Balashchenko.*

# Наступны сход

Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” адбудзецца **ў суботу 11 лютага 2012 г.**

Месца правядзеньня сходу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да станцыі **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад Union Square па 15-й вуліцы на скрыжаваньні з Irving Place.*

***Заля знаходзіцца на другім паверсе будынка.***

Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем, можна даведацца, наведаўшы ў інтэрнэце ўэбстаронку **www.baza-belarus.org***

*Паважаныя **В. Бандарэнка, І. Вінчэль, К. Кірсанава, А. Таболімна** паведаміце, калі ласка, рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня
*Âåñòê³ é Ïàâåäàìëåíüí³* :

| | |
|---|---|
| В. Бортнік | 30 |
| С. Груцык | 30 |
| Ю. Дазорча | 30 |
| М. Дзеканчук | 30 |
| Д. Дубараў | 30 |
| І. Знахарчук | 30 |
| Н. Каланей | 30 |
| Ю. Маісеенка | 30 |
| Д. Маслаў | 30 |
| І. Машкоўская | 30 |
| І. Міуская | 30 |
| Ш. Саркісян | 30 |
| Я. Сьмірноў | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***P. O. Box 572, New York, NY 10113***
Чэкі з адзнакай ***“Весткі”*** выпісвайце на імя ***Valentina Balashchenko***
*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы сайт **www.e-krama.com***
*Допісы накіроўвайце на адрас:*
***VIESTKI***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*электронная пошта: **viestki@mail.com***